# БЕЛАРУСКАЯ РАСА

Беларуская мова ёсьць аднэй з моваў славянскіх; із старых элемэнтаў іншых ёсьць у ёй толькі малая жменька слоў паходжаньня балтыцкага. З другога боку, па ўсёй займанай Беларусамі тэрыторыі расьцярушана мноства географічных і ня мала асобавых (прозьвішчы) назоваў балтыцкага паходжаньня. Далей, ад найдаўнейшых часоў ажно дагэтуль па ўсёй тэрыторыі расьсяленьня беларускага народу ў народным мастацтве беларускім (на тканінах, у кераміцы, у прыборах будынкаў, у некаторых вырабах рамясла) пануе орнамэнт геомэтрычны [1].) З народаў, гукаючых славянскімі мовамі, ніякі іншы народ у сваім народным мастацтве орнамэнту геомэтрычнага ня знае. Затое, як у Беларусаў, геомэтрычны орнамэнт пануе ў народным мастацтве народаў балтыцкіх (Літвіноў, Латышоў). Ведама, у народным мастацтве адбіваецца псыхіка народу. Дзеля таго, як географічныя назовы балтыцкія, так і геомэтрызм у народным мастацтве беларускім зьяўляюцца важнымі довадамі таго, што Беларусы паўсталі із зьліцьця часьці Славян із часьцяй Балтаў. З гэтым-бы было ў згодзе географічнае палажэньне беларускага народу. Менаванае зьліцьцё настала яшчэ ў пару прэгісторычную. Пазьней, на ваччу гісторыі, гэты працэс да некаторай меры паўтарыўся, калі ўліліся ў беларускі

[1]) Прыр. „Очерки по истории изобразительного искусства Белоруссии". 1940 г.

народ яшчэ два племёны балтыцкія—Голядзь на Ўсходзе і Яцьвягі на захадзе.

У згодзе з антрополёгічным паходжаньням Беларусаў ёсьць псыхічны тып беларускі. Беларус кемпы, быстры, борзда орыентуецца, вельмі здольны да вышшых перажываньнеў душэўных, ён лёгка прапінаецца абстрактнымі ідэямі, лёгка захапляецца паэзіяй і мастацтвам, ён наагул даволі пачуцьцёвы і не матэрыялісты,—гэта ўсё рысы славянскія. А—з другога боку—натура Беларуса глыбокая, трывалкая, узьдзержлівая, ён станаўкі, упорысты і вельмі адпорны на ўсякі націск, даволі скрытны, ня лёгка праяўляецца (трэба зь Беларусам доўга пажыць, каб яго пазнаць), гэта рысы тыпу балтыцкага. Да рысаў балтыцкіх трэба аднесьці і тое, што Беларус ня ўспыхвае й ня выбухае, на'т ня борзда загараецца, але ўгарэўшыся, гарыць доўга, гарыць ўнутры на'т тады, калі знадворку здаецца згаслым. На вайне Беларус супакойна—адважны. З гледзішча Паляка Беларус супакойны й маўклівы, а з гледзішча Ліцьвіна ён рухлівы й гаваркі.

Дзеля таго што спачатныя Славяне і спачатныя Балты былі чыстыя Арыйцы, дык і Беларусы належаць да чыстых Арыйцаў.

Менавапым сваім паходжаньням антрополёгічным Беларусы вельмі розьняцца як ад іншых народаў, гукаючых славянскімі мовамі (Палякоў, Украінцаў і іншых), так і ад народаў балтыцкіх. А найбалей Беларусы расава розьняцца ад Расейцаў, бо апошнія аславянізаваныя Фіны і часткава аславянізаваныя Турка-татары, значыцца зусім не Арыйцы.

## ПЛЯМЁНЫ БЕЛАРУСКІЯ

Просьле свайго ўтварэньня беларускі народ ня доўга жыў, зусярэдзіўшыся ў ваднэй мясцовасьці. Разрастаючыся й пашыраючыся на вялі-

зарных прасторах, ён падзяліўся на асобныя плямёны, каторыя аднак чуліся свае між собку, ведалі, што яны належаць да аднаго народу. Апрача традыцыі супольнага паходжаньня радніў іх адзін псыхолёгічны тып, адзін характар, звычаі, спосаб жыцьця і адна мова, бо дыялекты асобных плямёнаў надта мала розьніліся адзін ад аднаго, складаючы разам адзін беларускі язык.

Былі гэткія плямёны беларускія:

1. **Дрыгвічы.** Яны займалі прастор між Прыпяцяй і Дзьвіной. Часьць дрыгвічоў адарвалася неяк ад цэласьці гэтага племені й апынулася на Балканах у Македоніі. Грэкі называлі іх Druguvitai. У VI в. яны былі ўжо хрысьцянмі і мелі свайго біскупа. З часам яны растаілі паміж Баўгар, але сьляды мовы беларускай (дзеканьне, аканьне і іншыя) дагэтуль захаваліся ў некаторых гаворках баўгарскіх.

2. **Дзераўляне** або **Дзерава** жылі на паўдня ад Дрыгвічоў, у Паўднёвым Палесьсі.

Довады іх прыналежнасьці да беларускага народу гэткія:

а) Дагэтуль большыня даўнейшага прастору дзераўлянскага занята беларускай мовай, а на асталай часьці ёсьць асноўныя асаблівасьці беларускае мовы (развой ненацісьненых самагукаў накшы ад развою націсьненых [1])), каторыя сьведчаць, што раней і тамака была мова беларуская, але пазьней шчэзла, відавочна з прыходам туды насяленьня ўкраінскага з паўдня.

b) Подле антраполёгаў Ваўка [2]) і Талька Грынкевіча антраполёгічны тып насяленьня ўсяго

[1]) Глянь аб гэтым працы ўкраінскага дыялектолёга В. Ганцова.

[2]) Хв. Вовк: Антропологічні особливості українського народа. Студії з української етнографії та антропології. Прага.

Палесься аднолькавы з антраполёгічным тыпам Беларуса.

3. **Радзімічы,** што займалі прастор ля р. Сожа, левага прытоку Дняпра.

4. **Севяране,** або **Север** займалі прастор ля Дзясны, Сейма й Сулы—левых прытокаў Дняпра. Пры гэтым Севяране ў сваім калёнізацыйным руху на паўдня і паўднявы ўсход даходзілі да ракі Данца, каторы зваўся ў старыну «северскім», і Дона [1]). Калёніяй северскай была нат Тмутаракань ля Азоўскага мора (на паўабтоку Тамані). Як ведама зь летапісцаў, Тмутаракань цягнула да Чарнігава і наагул да северскай зямлі [2]).

Яшчэ нядаўна ў навуццы было хістаньне, што да нацыянальнай прыналежнасьці Севяран, але цяпер іхняя беларускасьць цьвёрда ўстаноўлена. Прычыніўся да гэтага галоўна проф. П. Растаргуеў [3]).

Вось довады беларускасьці севяран:

а) У бальшыні даўнейшага асяродка Севяран цяперака жывуць Беларусы, а што да паўднявой часьці Севершчыны, дзе цяпер Беларусаў нямашака, ведама, калі адтуль севяране выйшлі або былі выгублены і што ў XVII в. туды прыйшло насяленьне чужое, украінскае. Даўнейшы северскі характар прастору ў Чарнігаўшчыне, занятага цяпер беларусамі, пацьвярджае археолёгія і гісторыя.

в) Летапісцы лічаць севяран сваймі іншым плямёнам беларускім. Гэтак, кіеўскі летапісец

---

1) А. В. Михайловъ. Опытъ введенія въ изученіе рус. лит. языка и письма. Варшава, 1911, бач. 99.

2) Ibid.

3) Проф. П. А. Расторгуев: Северско - белорусский говор. Петербург, 1927. Глянь таксама Я. Станкевіч: Севяране—беларускае племя („Калосьсе", I, 1935 г.).

кажа: «Радимичы й Вятичы й Северь одинъ обычай имяхуть».

c) У XVII, XVIII і нат XIX в. назовам «сіверяне» называлі украінцы Беларусаў Чарнігаўшчыны [1]).

5. **Вяцічы** жылі па р. Аццэ, зьверху, ажно да сярэдняе яе цечы.

6. **Крывічы** займалі верх Дняпра, верх Волгі, верхнюю й сярэднюю Дзьвіну, р. Вялікую і часьць р. Лаваці. Крывічы былі найбольшым племенем. Яны праявілі вялікія арганізацыйныя й гандлёвыя здольнасьці. Яны ня толькі самі добра арганізаваліся, але нярэдка арганізавалі такжа іншыя плямёны беларускія. Дзеля таго сярод іншых плямёнаў беларускіх, у мясцовасьцях, што гадзіліся на адміністрацыйныя пункты, зьяўляліся крывіцкія адміністратары і паўставалі крывіцкія калёніі. Аб гэтым цяпер сьветчаць местачкі й сёлы з назовамі «Крывічы» і пад. Гэтак, маем местачка Крывічы ў Вялейскім пав., Крэва й Крыўск у пав. Ашмянскім, сяло Крывічы ў пав. Лідзкім і г. д., нат на Палесьсю. Стары замак—Крывы горад—у Вільні быў таксама пастаўлены Крывічамі. «Крывы» значыць тут «крывіцкі».

Ад IX в. Крывічы палітычна дзяліліся на Полацкіх, Смаленскіх і Пскоўскіх [2]).

Дзеля вялікай дзейнасьці племені Крывічоў імя іхнае памалу пашыралася на іншыя плямёны беларускія. У XII в. назоў «Крывічы» стаўся назовам агульна-нацыянальным, значыцца і ўсі іншыя плямёны беларускія сталі звацца Крывічамі. Побач із гэтым агульна-нацыянальным назовам «Крывіч, Крывія, Крывіччына, Крывіцкі» былі й

---

[1]) Расторгуев, ibid. , бач. 217—218.

[2]) Аб Крывічох і Вяцічах глянь Я. Станкевіч: Беларускія плямёны і іхняе расьсяленьне („Родная мова“, I, Вільня).

мясцовыя назовы племенныя («Севяране, Радзімічы» і інш.

Назоў «беларусы, Беларусь» шмат пазьнейшы і накінены Маскалямі; да палавіны XIX веку Беларусы гэтым назовам сябе не называлі, а зь не Беларусаў называлі іх дагэнуль гэтым назовам блізу адны толькі маскоўскія палітыкі—з мэтамі тэндэнцыйна-палітычнымі.

Даволі шырака, хоць далёка ня зусім чыста, назоў «беларус» і г. д. сярод нашага народу прыняўся толькі ў XX веку.

Дзеля вышменаванага паўстала моцнае ймкненьне, каб нашаму народу вярнуць яго стары й запраўдны назоў «Крывічы, Крывічане» і г. д. Дзеля таго-ж і аўтар гэтае працы будзе часта ўжываць гэты назоў.

А калі назоў «крывічы» і г. д. будзе адносіцца да аднаго племя Крывічоў, тады будзе дадавацца слова «племя» або «полацкія», «смаленскія» ці «пскоўскія» (крывічы).

## ПОЛІТЫЧНЫ РАЗВОЙ

У IX веку беларускія плямёны былі ўжо на ведамай ступені культурна-палітычнага развою. Мелі яны свае палітычныя асяродкі—гарады.

Мелі так-жа свае гаспадарствы—княствы зь мясцовымі родамі князёў. Яны вялі ладны (значны) гандаль, галоўна з Арабамі. Дык-жэ ў VIII—IX в.в. цераз Беларусь ішла дарога арабска-скандынаўскага гандлю. Гэта была найбольшая галіна сьветнага гандлю арабскага. Менаваная дарога йшла з Арабіі й Сырыі на Армэнію, Каўказ і Касьпійскае мора, адгэтуль часткава на Волгу, а часткава на раку Дон і Данец у Крывію (Беларусь) і далей у Скандынавію. Аб велічыні гэтага гандлю сьветчыць мноства скарбаў арабскіх монэтаў, знаходжаных у раскопах у Беларусі. Разам із гандлям прыходзіў некаторы культурны ўплыў арабскі.

## ПРЫХОД НОРМАНАЎ

У II палове IX веку на ўсходзе Эўропы насталі вялікія зьмены політычныя, прычыненыя прыходам Норманаў (Скандынаваў). Норманы ймкнуліся ў Бізантыю, што слыла тады ў сьвеце сваім багацьцям. У Бізантыю із Скандынавіі вялі дзьве дарогі: адна водная па мору Балтыцкаму, Нямецкаму, цераз Атлянтыцкі акіян і мора Міжыземнае; другая дарога вяла з Балтыцкага мора па рэках—Нёман, Дзьвіна, Нарва і інш.—уцякаючых у гэтае мора, а зь іх па Дняпру ў Чорнае мора.

Норманы, што ў IX веку, імкнучыся ў Бізантыю, прыйшлі на ўсход Эўропы, у борздым часе ўтварылі тут вялікае гаспадарства—імпэрыю, складзеную із Славен, жывучых ля возера Ільменя, розных плямёнаў фінскіх, часьці плямёнаў беларускіх (крывіцкіх) і ўсіх украінскіх. Імпэрыя Рурыкавічаў (норманская дынастыя з галоўным цэнтрам у Кіеве) ня мела нацыянальнага характару, а складалася з народаў вельмі розных. Яе паўстаньне й прасьцяг азначалі таргова-водныя дарогі. Яшчэ спачатку ў гэтым гаспадарстве мелі пекаторую політычную перавагу Украінцы. Але ў канцы XI веку, калі два ўкраінскія плямёны—Угліччы й Ціверцы—пад націскам качаўнікоў із чарнаморскіх сьцяпоў—прымушаны былі з-пад Дняпра перасяліцца на Днестр, і гэтая перавага адпала. Адгэнуль імпэрыя Рурыкавічаў прадстаўляе ў поўнай меры свайго роду міжнародны зьвяз гаспадарстваў, слабка зьвязаных між собку адным дынастычным домам.

Із самага пачатку імпэрыі Рурыкавічаў часьць Крывіччыны, а наймена полацкія Крывічы з часьцяй суседніх Дрыгвічоў, ня ўходзілі ў склад гэтага гаспадарства. З выняткам вельмі кароткіх перарываў, ня трываючых і дзесяткоў год, Полаччына ўвесь час была гаспадарствам незалежным ад Кіеўскага політычнага цэнтру.

У канцы XII веку Полацкае гаспадарства расшырыла свае межы на паўночным заходзе па р. Дзьвіне блізу да Балтыцкага мора (ля дольнай Дзьвіны быў полацкі ўдзел—княства Кукейноскае), на заходзе абыймала басэйн Нёмна (тут полацкімі ўдзеламі былі княствы Віленскае, Горадзенскае в м. Горадзен ля Нёмна й Гарадзецкае), а на паўдні даходзіла да Прыпяці (княствы Слуцкае й Клецкае былі полацкімі ўдзеламі).

Аднача<br>сна з разростам Полаччыны, эманцыпаваліся ад Кіеўскага цэнтру і іншыя крывіцкія (беларускія) землі—княствы: Северскае й Смаленскае (за князя Расьціслава Мсьціславіча 1128—1160). Побач із гэтым настае ў XII веку паміж усімі гаспадарствамі беларускімі політычнае й гаспадарскае збліжэньне (блізіня культурная была заўсёды).

У тым-жа XII веку і іншыя нацыянальныя асяродкі, у меру свайго культурна-політычнага дасьпяваньня, эманцыпуюцца ад Кіева: украінская—Галіцкая—зямля робіцца самастойнай за князя Яраслава Асмамысла (+1187), Ростаўска-Суздальская (пазьнейшыя Маскалі) [1]) за Юр'я Даўгарукага (1157).

Напрошуецца тут аналёгія з цэсарствам Караля Вялікага. Там таксама адно гаспадарства ў меру дасьпяваньня сваіх складовых нацыянальных частkaў дзеліцца за наступнікаў Каралёвых на тры асобныя нацыянальныя гаспадарствы—Нямеччыну, Італію й Францыю.

---

1) Суздальцы, пазьней ад м. Масквы званыя Маскалямі, паўсталі ад зьмяшаньня з Фінамі і асыміляваньня іх ноўгарадзкімі Славенамі. Хоць ужо ільменскія Славене былі Славянска-фінскімі мешанцамі, то аднак новы прыток фінскага элемэнту быў такі вялікі, што паўстала апрычоная ад Славен раса, раса запраўды фінская, адно із славянскім пакостам (мова адналькавая з ноўгарадзкімі Славенамі).

## АД ПРЫХОДУ НОРМАНАЎ ДА ПАЛАВІНЫ XIII В.

Імкнучыся ўсходняй дарогаю ў Бізантыю, Норманы, дзеля геаграфічнага палажэньня Беларусі, не магла, ведама, яе абмінуць.

Адныя княствы крывіцкія ляжалі на вялікай воднай дарозе гандлёвай із Скандынавіі ў Бізантыю. Да іх наўперад належылі княствы Смаленскае й Пскоўскае. Полаччына перагараджала дарогу ў Скандынавію і нагул у Заходнюю Эўропу на Дзьвіне. Дрыгвічы заступалі туды-ж дарогу па Нёмне. Севершчына й Дзераўляне пагражалі Кіеўскаму цэнтру сваім блізкім суседзтвам да яго. Апрача таго заходняй граніцаю Севяран быў той-жа Дняпро, па якім праходзіла вялікая водная дарога з поўначы на паўдня. Дзеля гэтага, стварыўшы вялікае гаспадарства з цэнтрам у Кіеве і асягшы ў сваіх заваявальных імкненьнях на Бізантыю, карыстаючыся адно зь яе дзеля гандлёвых зносінаў, дынастыя Рурыкавічаў і політыка Кіеўскага цэнтру наагул не магла не жадаць політычнае залежнасьці ад гэтага цэнтру ўсяе Беларусі. Тымчасам Беларусы накш, чымся Славене ноўгарадзкія, Фіны й Украінцы, аднесьліся да створанае і далей пашыранае імпэрыі Рурыкавічаў. Полацкае гаспадарства, як мы бачылі вышэй, асталося незалежным. Яно і ўзяло на сябе галоўнае заданьне ў вызваленьні ад Кіева ўсіх асталых земляў беларускіх, а што датычыць Пскоўшчыны, дык яе трэ' было вызваляць і ад суседняга, залежнага ад Кіева, Ноўгарада.

Дзеля менаванага, розныя землі крывіцкія бароняцца ад прылучэньня іх да імпэрыі Рурыкавічаў. Успомнім крывавую барацьбу Дзераўлян у X в. за вялікага князя Кіеўскага Ігора і ягонае жонкі Вольгі. Будучы заваяваныя Кіеўскім цэнтрам, Беларусы часта паўстаюць, каб ськінуць із сябе чужую ўладу. Гэтак

мы ведаем, што паўстаньне Радзімічаў было здушана вялікім князям Кіеўскім, Валадзімерам I[1]).

Дзеля таго-ж за Валадзімера I Кіеўскага прыйшло да крывавай вайны Полаччыны зь Кіеўскім цэнтрам, у каторай між іншым была зьністожана полацкая дынастыя Рогваладавічаў—па муской лініі.

Пачынаючы ад 1021 г., звыш сто год Полаччына вядзе блізу бязупынныя войны з імпэрыяй Рурыкавічаў—за абарону свае незалежнасьці і вызваленьне асталых земляў крывіцкіх ад Кіеўскага цэнтру, а Пскоўшчыны і ад Ноўгараду. Войны гэтыя вяліся зь вялікай упорыстасьцяй і заўзятасьцяй. Дзеля таго што Полаччына ходалася з цэлай імпэрыяй Рурыкавічаў, нярэдка ўсе землі, належачыя да Кіеўскага цэнтру, выступалі разам проці яе. Гэтак у 1127 г. вялікі князь Кіеўскі Мсьціслаў павёў на Полаччыну зямлю ўкраінскую, суздальскую й ноўгарадзкую[2]). Відавочны ў гэтую пару вялікі антогонізм паміж Крывічоў, з аднаго боку, ды Украінцаў, Ноўгарадцаў (Словенаў) і Суздалцаў, з другога. Прычына гэтага антогонізму была ня толькі ў супярэчнасьцех політычных і гаспадарскіх, але, відавочна, і ў розьніцы псыхолёгічнай тагачасных Крывічоў ад іхніх суседзеў.

Найвыдатнейшымі гаспадарамі крывіцкімі ў гэтую пару былі тры вялікія князі полацкія: Рогвалад (у X в.), ягоны праўнук (па жаноцкай лініі) Усяслаў Вялікі (1044—1101) і Усяслаў Васількавіч (1160—1180), праўнук Усяслава Вялікага.

У вышменаванай векавой барацьбе Полаччына ня толькі баранілася, але й наступала. У гэтую пару яна ладне (значне) расшырыла свой гаспадарствены прастор на паўдзённы заход—у землі Дрыгвічоў і на паў-

1) М. М. Довнар-Запольскій: Исторические судьбы Белоруссіи („Россія", полное географическое описание нашего отечества, под ред. В. П. Семенова, IX, бач. 58).

2) Довнар-Запольскій, Op. cit., 60.

ночны заход—у Лівонію. Удачы Полаччыны магі стацца дзеля таго, што з боку полацкага ня толькі ваявалі князі із сваймі дружынамі, але—дзякуючы солідарнасьці вечаў з князьмі—і ўвесь народ. Як было зацемлена вышэй, у XII в. вызваляюцца ад Кіева Смаленскае й Чарнігаўска-Северскае княствы крывіцкія. Паміж усіх земляў крывіцкіх разьвіваецца нацыянальная солідарнасьць і пачынае праяўляцца імкненьне да задзіночаньня ў вадно суцэльнае гаспадарства крывіцкае. Гэтаму ймкненьню прыялі вечы, у той час як княжыя дынастыі асобных княстваў былі зацікаўлены ў захаваньні апрычонасьці іхніх гаспадарстваў. Другім дзейнікам, падзьдзержуючым ідэю політычнага задзіночаньня была царква.

Загартаванасьць усяго насяленьня даўнейшае Полаччыны ў барацьбе з вонкашнымі непрыяцелямі, нацыянальная солідарнасьць між усіх земляў крывіцкіх і на'т імкненьне да задзіночаньня на толькі ўмацавалі сілы народу беларускага, што ён ў палавіне XIII в. патрапіў абараніцца ад татарскага находу. Гэткім парадкам Крывічы, як цэласьць, не зазналі татарскага ярма.

---

Стварыўшы гаспадарства з цэнтрам у Кіеве, дынастыя Рурыкавічаў у борздым часе парухала (зьліквідавала) хазарскае гаспадарства (цэнтр яго быў ля Дону), пад аховам каторага былі дарогі карыснага Беларусі гандлю з Арабамі. З гэтага мамэнту гандаль із Арабамі борзда падае, а замест яго ўсё балей і балей разьвіваецца ў усіх землях Рурыкавічаў гандаль ізь Бізантыяй. З гандлям ідуць культурныя ўплывы. Дзеля таго ў канцы X в. (988 г.) Кіеўскі цэнтр, а за ім і Беларусь прынялі хрысьціянства з Константынополю.

Але пад канец XI в. гандаль ізь Бізантыяй наткнуўся на вялікую перашкоду, бо ў сьцяпох зьявілася палавецкая арда. Тым часам збліжэньне Крывічоў да Бал-

тыцкага мора даль магчымасьць гандлю з абтокам (вэйстравам) Готляндам ды з паўночнанямецкімі местамі, што борзда разьвіваліся. Нямецкія купцы прыяжджалі ў Крывіччыну, а крывіцкія на абток (войстраў) Готлянд (м. Вісбы) і ў Нямеччыну. «Ужо ў канцы XII в. немцы моцна ўладзіліся ў Смаленску. Тут жыла цэлая колёнія нямецкая, што мела сваю царкву... Колёнія мела свайго старасту і грамадзкі капітал, пушчаны ў зваротак падобна да банку»[1]).

Асабліва разьвіваецца крывіцка-нямецкі гандаль ад першых год XIII в., калі ля вусьця Дзьвіны паўстаў Лівонскі Ордэн і закладзена была м. Рыга. У Рызе была крывіцкая колёнія купецкая і мела там сваю царкву пад імям сьв. Мікалая.

Спачатку звычай, а потым і зробленыя зь Немцамі гандлёвыя ўмовы азначалі ўзаемныя адносіны крывіцкіх і нямецкіх купцоў. Гандлёвыя ўмовы былі з абтокам Готляндам зь Любэкам, Данцыгам, Мюнстэрам, Сестам, Брэмэнам, Дортмундам, Грэнінгам, Браўншвэйгам, Кассэлям і, ведама, з Рыгаю. Зь беларускае стараны ўмовы рабілі Полацак, Смаленск і Віцебск, а за іх пасярэдніцтвам і шмат іншых. Выдатнай і тыповай гандлёвай умоваю ё «Смаленская Праўда» з 1229 г.

## ЗАДЗІНОЧАНАЕ ГАСПАДАРСТВА КРЫВІЦКАЕ

### (Ад палавіны XIII да канца XVIII в.).

**Мы бачылі з папярэдняга, што ў пал. XIII стаг. вялізарная бальшыня земляў крывіцкіх зусім была прыгатаваўшыся да політычнага задзіночаньня ў вадным сваім гаспадарстве. Патрэбна была толькі конкрэтная ініцыятыва, каб імкненьне да задзіночаньня стала ўжыцьцяўлядца.**

---

1) Довнар-Запольскій, op. cit. 64.

Нормальным было спадзявацца, што гэтая ініцыятыва выйдзе з таго гаспадарства крывіцкага, што дагэнуль стаяла на чале крывіцкіх імкненьнеў палітычных, рупячыся аб вызваленьню ўсіх крывіцкіх земляў з-пад чужое ўлады. Гэт'кім гаспадарствам была Полаччына. І дыкжэ ў пал. XIII в. ідэя задзіночаньня пачынае рэалізавацца ў Ноўгарадку (Наваградак), каторы яшчэ ў XII в. быў удзелам полацкага гаспадарства. У гэтую пару ў Полаччыне вымерла старая дынастыя Усяславічаў [1]. Дзеля таго ініцыятыва мусіла паўстаць у князёў іншага роду. Ініцыятарам стаў Міндоўг, князь Ноўгарадку. Балтыцкае імя новага князя было нормальным у пароду, у каторага заўсёды была часьць прозьвішчаў балтыцкага паходжаньня і каторага этнічнай часьцяй складовай былі Балты.

Міндоўг прылучыў да Наваградзкага гаспадарства Ваўкавыск, Зьдзітава, Слонім, ды княствы Горадзенскае, Гарадзецкае й Віленскае.

У 1258 г. да новага цэнтру палітычнага ў Ноўгарадку было прылучана Падляшша (Берасьцейская й Мельніцкая землі) [2]. У тым-жа часе ўладу Ноўгарадка прызнала Полацкая мітраполія, зн. асяродак вялікага княства Полацкага, і дзеля таго Міндоўг пасадзіў сваіх сваякоў на княжых пасадах у Полацку, Віцебску ды ў некаторых мястох Смаленшчыны. Так сама верхнюю ўладу Ноўгарадка прызнала княства Пінскае.

Падобна да таго, як уперад Палачане прылучылі да свайго гаспадарства Лівонію, так цяперка да новага асяродка крывіцкага ў Ноўгарадку належаць іншыя землі балтыцкія, наіменна Аўкштота і своя ёй Жамойць (Жмудзь). Адылі Жамойць была нездаволіўшыся з новае гаспадарсьцьвенасьці, і там узьнялося паў-

---

1) Довнар-Запольскій, Op. cit. 71.

2) Górny B.: Monografia powiatu Bialskiego Белая Падляская, 1939, бач. 12.

станьне, у часе катораrа Міндоўг быў забіты (1263 г.). Ад гаспадарсьціьвенага перакрышу (крызысу) ўсьцярог сын Міндоўгаў Вайшэлк, каторы, на чале наваградзка-ваўкавыскіх войскаў, здушыў паўстаньне Жамойці.

Па сьмерці Міндоўга ў працягу кароткае пары можна назіраць аслабеньне шыбчыні задзіночаньня Крывічоў. Прычынена гэта было дынастычнымі ходаньнямі. Няздаўга аднак шыбчыня гэтая ўзноў расьце.

Полацак прызнаў такжа верхнюю ўладу наступнога князя ноўгарадзкага **Віценя.** Ад 1307 г. Полацак без перарыву належыць да новага крывіцкага асяродка політычнага ў Ноўгарадку. У першых гадох XIV стаг. прызналі сваю залежнасьць ад Ноўгарадка княжаты менскія. У тым-жа часе астача княстваў турава-пінскіх прызнала над сабою ўладу Ноўгарадка.

Наступнікам Віцева быў **Гедымін** (1316—1341), што залажыў новую дынастыю Гедымінавічаў. Каб быць бліжэй да земляў усходне-крывіцкіх, ён перанёс сталіцу гаспадарства ў Вільню.

Сын Гедымінаў **Альгерд** яшчэ за жыцьця бацькі ажаніўся з княжнай віцебскай, Марыяй, адзінай дачкою віцебскага князя Яраслава. Гэткім парадкам ён прыдбаў назаўсёды гэтае княства для новае гаспадарсьцьвенасьці. За вялікага князя Альгерда (1341—1377) быў такжа ўмацаваны ўплыў задзіночанага гаспадарства крывіцкага ў княстве Смаленскім, хоць із княжай дынастыяй смаленскай мусіў яшчэ ходацца наступнік Альгердаў, вялікі князь **Вітаўт.** Княства Чарнігаўска-Северскае так сама было прылучана за гаспадараньня в. кн. Альгерда. На ўсходзе ўжо за Альгерда да задзіночанага гаспадарства крывіцкага належылі ўсе землі крывіцкія, значыцца і землі даўнейшага племя Вяцічаў ля верхняе й сярэдняе Акі, бо гэты князь, па пераможным паходзе на Маскву, учыніў граніцу зь ёй «па Мажайск і Каломну».

Задзіночаньне земляў крывіцкіх сталася не заваяваньням іх новым цэнтрам політычным, але блізу заўсёды самахоць, бо ййкненьне да гаспадарсьцьвенага задзіночаньня было ў усіх часьцеў крывіцкага народу.

А калі ўжо землі крывіцкія былі злучыўшыся, да крывіцкага гаспадарства была прылучана—дарогаю вайны з Татарамі—часьць земляў украінскіх; наімена княства Кіеўскае і Валынь.

Гэт'кім парадкам паўстала вялізарнае гаспадарства крывіцкае; граніцы яго цягнуліся ад мора Балтыцкага да Чорнага ды ад Міжырэчча па Бугам да сярэдзіны р. Акі ўлучна.

## Назоў задзіночанага гаспадарства Крывіцкага

Задзіночанае гаспадарства крывіцкае ведама пад назовам «Вялікае княства Літоўскае» або проста «Літва».

Прыродна, што гэтае гаспадарства не магло звацца беларускім, бо назоў «Беларусь» і г. д. прыходзіць да народу крывіцкага адно ў стагодзьдзю XIX, накіданы маскоўскаю політыкаю. Але ня звалася яно й крывіцкім, хоць назоў «Крывічы» быў у пару яго паўставаньня назовам агульна-нацыянальным.

Назоў «Літва» дагэтуль нявыясьнены ані з мовы крывіцкае, ані зь літоўскае (подле цяперашняе тэрміналёгіі). Няма таксама ў гісторыёграфіі агульнага прызнаньня, якое плямя спачатна звалася Літвою, ці якоесь няведамае плямя крывіцкае (Люцічы, як думаюць некаторыя), ці гэтак звалася часьць плямя балтыцкага Аўкштоты (займала часьць сярэдняе цечы Нёмна). Але згаджаюцца ўсі, што назоў гэты не адносіўся спачатку ані да сваё Аўкштоце Жмудзі, што займала правы бераг дольнага Нёмна, ані да ўсяе або бальшыні Аўкштоты. А пагляд, што Літвою спачатна звалі

невялічкую часьць племя Аўкштота ёсьць дапушчэньням не балей, але на'т менеі праўдападобным за іншыя.

Летапісцы XII—XIII вв. назоў «Літва», «Літоўская зямля» ўжываюць у ваднасінах да прастору, агранічанага на поўначы р. Вяльлёй, а на заходзе Нёмнам [1]). На паўдні так сама граніцаю гэтага прастору быў Нёман [2]). Насельніцтва гэтае зямлі складалася блізу з адных Крывічоў. Толькі ў паўночна-заходнім куце гэтага прастору жыло часткава ў невялічкай колькасьці насельніцтва аўкштоцкае.

З гледзішча палітычнага быў гэта прастор трох княстваў крывіцкіх—Віленскага, Горадзенскага й Гарадзецкага—ведамых яшчэ ў стаг. XII, як княствы—удзелы Вялікага Княства Полацкага.

Якога-б паходжаньня ні быў назоў «Літва» ды да якога племя спачатна ён належыў [3]), ня можа гэта быць супярэчным із крывіцкім характарам гаспадарсьцьвенасьці Вялікага Княства Літоўскага, як не пярэчаць нямецкага характару гаспадарсьцьвенасьці Прусаў або англіцкага Брытаніі, хоць абодва гэтыя краі маюць назовы паходжаньня чужога—засталіся яны ад плямёнаў, заваяваных Немцамі й Англа-саксамі.

Пачынаючы ад стагодзьдзя XIII назоў «Літва, Ліцьвін, літоўскі» пашыраецца сярод Крывічоў, як іхні назоў агульнанацыянальны, пры гэтым некаторую пару часу ён ужываецца побач із папярэднім назовам агульна-нацыянальным «Крывічы». Да паловы XIV в. яшчэ назоў «Крывічы» пераважае, але далей перакага ёсьць за назовам «Літва», каторы нязадаўга стаецца адзіным назовам нацыянальным усіх Крывічоў.

---

1) Łowmianski H.: Studia nad początkami społeczeństwa i państwa litewskiego.

2) Полное собраніе русских летописей, II, бач. 201.

3) Шмат якія народы—прыкладам Сэрбы, Чэхі—дагэтуль ня могуць выясьніць значэньня й паходжаньня свайго нацыянальнага назову.

Ліцьвінамі звалі сябе самі Крывічы, таксама іх звалі народы чужыя, наўперад, ведама, суседзі, значыцца Немцы, Палякі, Украінцы, Маскалі. Назоў гэты ўжываўся ў вадносінах да Крывічоў ня толькі на працягу ўсяго быцьця Вялікага Княства Літоўскага, але й пазьней, найменей да паловы XIX в., а ў ладнай меры дагэтуль. Просты народ украінскі, як сельскі, так і мескі, заве Крывічоў дагэтуль ліцьвінамі. У ладнай меры дагэтуль завуць гэтак Крывічоў гранічачыя зь імі на заходзе Мазуры. У XVII в. маскоўскае міністэрства заграничных спраў («заграничный приказъ») дзеля палітычных меркаваньняў пачынае тарнаваць да Крывічоў назоў «Белорусецъ, Белая Русь», але грамадзкасьць маскоўская і далей, а сельскі люд маскоўскі дагэтуль заве гранічачых із ім Крывічоў ліцьвінамі. Калі ў XIX в. польскі паэта А. Міцкевіч піша: „Litwa, ojczyzna moja" то пад Літвою разумее Крыўю, скуль ён паходзіў (Міцкевіч быў спалячаным шляхцічам крывіцкім із Наваградчыны).

Што назоў «Літва, ліцьвін» быў у вадносінах да Крывічоў назовам нацыянальным, а ня толькі гаспадарсьцьвеным, бачым із таго, што ані Украінцы, каторыя да 1569 г. належалі да Вялікага Княства Літоўскага, ані складаючая з Аўкштотай адзін народ Жамойць ніколі ня былі званы ліцьвінамі[1]).

Затое Аўкштота была звана Літвою. Мусіла гэта настаць з прычыны не блізкога сужыцьця з Крывічамі. Насельніцтва Аўкштоты не займала нідзе на'т асобнага стану Крывічоў павету (тагачаснага), калі тымчасам «стараства жамойцкае» было да некаторай меры адзінкаю аўтономнай у Вялікім Княстве Літоўскім.

1) Звычайны назоў аадзіночанага гаспадарства крывіцкага быў: „Літва" або: „Вялікае Княства Літоўскае", а ўрачыстым назоў быў гэткі: „Вялікае Княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае" і інш., дзе пад „літоўскае" разумелі крывіцкае, пад „рускае" — украінскае.

Дык адначасна ліцьвінамі зваліся і Крывічы, і Аўкштадяне. Дзеля таго што Крывічы былі элемэнтам гаспадарсьцьвена-творскім, дзеля таго што яны кіравалі Вялікае Княства Літоўскае,—каротка кажучы, дзеля таго што Літва была гаспадарствам крывіцкім, з пануючай культурай і гаспадарсьцьвенай мовай крывіцкай, пад ліцьвінамі блізу заўсёды разумелі Крывічоў. А калі хацелі назоў «Літва» і пад. ўжыць у адносінах да Аўкштоты, дык, каб усьцерагчыся непаразуменьня, мусілі апісова бліжэй азначаць. Прыклад: польскі хронікар XVI в., Марцін Бельскі, піша:

„Rzecz Prusów (балтыцкіх—*Я. С.*) podobna jest rzeczy Litwy, tej Litwy, która mówi językiem kurońskim"

«І добра гэтак выясьняе»—заценіў праф. Брукнэр,—бо калі-б не дадаў праказаньня „która mówi językiem kurońskim", дык пад Літвой зразумелі-б Крывічоў («Беларусаў»).

Маем тутка аналёгію да Прусаў. Яшчэ ў XVIII в. ў Усходніх Прусах жылі астачы балтыцкага народу Прусаў; ня гледзячы на гэта, пад назовам «прусакі, прусы» ад XVI в. ўлучна блізу заўсёды разумелі прускіх Немцаў.

Заценлю, напасьледак, што калі ў канцы XVIII в. пачаўся адраджэнска-нацыянальны рух народу, што складаецца з Аўкштоты й Жмудзі, дык даўжэйшы час ён зваўся рухам жмудзкім, літаратурай жмудзкай і г. д. Толькі па якімсь часе правадыры гэтага руху прысабечылі яму назоў «літоўскі», што лёгка магло стацца з тае прычыны, што адраджэнскі рух крывіцкі пачаўся пазьней за жмудзка-аўкштоцкі.

### Довады Крывіцкае гаспадарсьцьвенасьці Вялікага Княства Літоўскага

Каб усьцерагчыся паўтарэньнеў у працягу гэтае працы, надабе адразу прывесьці галоўныя довады крывіцкае гаспадарсьцьвенасьці Вялікага Княства Літоўскага.

1. Гаспадарства гэтае паўстае на зямлі крывіцкай і першай сталіцай яговай ё крывіцкае места Ноўгарадак.

2. Наступная сталіца, Вільня, была таксама местам із кажнага гледзішча крывіцкім.

3. Гэрб В. Кн. Літоўскага—коньнік, што гоніцца за непрыяцелям—паходжаньня полацкага. Паходжаньня аўкштоцкага або жамойцкага ён ня можа быць з тае прычыны, што мае крыж на шчыце, и ўжываўся ўжо ў XIII в., калі тымчасам Аўкштота была ахрышчана ў канцы XIV в., а Жамойць ажно у в. XV [1]).

4. Крывіцкія назовы адміністрацыйныя й фіскальныя ўжываліся ў В. Кн. Літоўскім ня толькі на прасторы этнографічна-крывіцкім, але такжа ў Аўкштоце й Жмудзі. Так сама назоў баярства крывіцкага «баяры» стаўся назовам шляхты аўкштоцка-жмудзкай і астаецца ім дагэтуль. Гэта ня сталася-б, калі-б дзейнікам, творачым гэтае гаспадарства, быў элемэнт аўкштоцка-жмудзкі.

5. Ад пачатку быцьця В. Кн. Літоўскага ў другой чэцьверці XIII в. ажно да яго канца ў 1793 г. палітыка яго была скіравана па дабро народу крывіцкага. Немагчыма знайсьці ніякага сігня (кроку) гэтае палітыкі, што быў-бы сьвядома скіраваны проці патрэбаў нацыянальна-крывіцкіх. Гэтага нельга сказаць аб адносінах да Жмуйдзіноў палітыкі Вял. Кн. Літоўскага. Заклададальнік Вял. Кн. Літоўскага, вялікі князь Міндоўг, ды найбольшы палітык гэтага княства, вялікі князь Вітаўт, у кажную крытычную часіну лёгка ўступалі Жмудзь Тэўтонскаму Ордэну.

6. Ня толькі ў Вялікім Княстве Літоўскім панавала крывіцкая культура, ня толькі мова крывіцкая была на ўсім яго прасторы моваю сфэраў вышшых і моваю літаратурнай, але такжа на ўсім прасторы гаспадарства,

---

[1]) І. І. Лаппо — Западная Россія і ея соединеніе с Польшею. Прага, 1924 г. бал. 121.

значыцца, так сама на Жмудзі й Аўкштоце, толькі яна была моваю гаспадарсьцьвенай (даяржаўнай). Калі прыймем над увагу, што мова крывіцкая ня была моваю царквы, бо моваю царкоўнай была ў Крывічоў мова царкоўна-славянская, калі, далей, прыймем пад увагу, што Жмудзь і Аўкштота былі веры каталіцкае, а Крывічы праваслаўнымі, дык факт вылучнай гаспадарсьцьвенасьці крывіцкае мовы ў Ліцьве можам вытлумачыць толькі тым, што Крывічы—і толькі Крывічы—былі народам гаспадарсьцьвеным ў Вялікім Княстве Літоўскім. У праціўным прыпадку, дзеля невядомае акалічнасьці, факт вылучнае гаспадарсьцьвенасьці крывіцкае мовы ў Ліцьве быў-бы зьявішчам адзіным у сьвеце.

7. Крывіцкае права ўвайшло як канстытуцыі асобных земляў крывіцкіх сталіся правам гаспадарсьцьвеным Вялікага Княства Літоўскага [1]).

8. Усе Крывічы ўважалі Вялікае Княства Літоўскае за гаспадарства собскае, былі яны такжа патрыётамі гэтага гаспадарства. Летапісы Вял. Кн. Літоўскага, што зьяўляюцца свайго роду патрыётычнай гісторыяй гаспадарства, былі творамі чыста крывіцкімі, а аснова іх, званая цяперка ў навуцы рэдакцыяй старшай, была ў канцы XIV і на пачатку XV в. напісана ў крывіцкім Смаленску [2]).

Вялікае Княства Літоўскае перажывала сьцяг дынастычных перакрышаў (крызысаў), наіменна па сьмерці вял. кн. Міндоўга, Гедыміна, Альгерда, Вітаўта; калі жыцьцё гаспадарства бывала ў небясьпечнасьці, аднак крывіцкае грамадзтва заўсёды патрапляла яго ўратаваць ад распаду. Ня сталася-б гэта ў тым прыпадку,

---

[1]) Глянь аб гэтым ніжэй, у разьдзеле аб культуры

[2]) І. Станкевіч, Павесьці і апавяданьні беларускіх летапісцаў („Маладая Беларусь“, I, Вільня).

калі-б Вял. Кн. Літоўскае было творам дынастычным, а не нацыянальна-крывіцкім.

Назоў гаспадарства «Літва» быў аднача́сна нацыянальным назовам крывіцкага народу.

Калі дапусьціць, што Вялікае Княства Літоўскае ня было гаспадарствам крывіцкім, дык усё менавапае пад гэтым пунктам магло стацца толькі ў тым прыпадку, што тагачасныя Крывічы былі з глядзішча культурна-нацыянальнага засыміляваны Аўкштота-Жмудзінамі. Тымчасам было наадварот, Крывічы ня толькі былі сьвядомыя свае нацыянальнасьці, ня толькі ў Ліцьве панавала мова й культура крывіцкая, але асьвячоныя клясы іншых нацыянальнасьцеў у Княстве крывіччыліся (беларушчыліся).

У гэныя часы народам палітычным было рыцарства-шляхта, а шляхта ў Вялікім Княстве Літоўскім з глядзішча культурна-палітычнага была суцэльная і была крывіцкая. Шляхта паходжаньня аўкштоцка-жмудзкага ня толькі ў жыцьцю грамадзкім, але такжа прыватным і радзімным карысталася моваю крывіцкай, пішучы, прыкладам, ў ёй свае радзімныя хронікі, а собскую мову аўкштоцка-жмудзкую ўважала за простую, мужыцкую. Шляхта аўкштоцка-жмудзкая ўважала мову крывіцкую за вышшую і за сваю собскую. Прыкладам, канцлер Вялікага Княства, Леў Сапега, прамаўляючы ў 1588 г. на сойме, з прычыны новага выданьня Літоўскага Статуту, сказаў да ўсіх паслоў Вялікага Княства Літоўскага, што калі «іншым народам стыд правоў сваіх ня знаці, дык пагатове ім, бо яны ня ў чужой мове маюць правы, але ў сваёй собскай». Як ведама, правы Вялікага Княства Літоўскага былі выданы ў мове крывіцкай.

Прыведзеных довадаў даволі, каб прызнаць без засьцярогаў крывіцкасьць гаспадарсьцьвенасьці Вялікага Княства Літоўскага.

## Дальшы развой падзеяў у Вялікім Княстве Літоўскім

У 80-х гадох XIV стаг. ў Польшчы й Ліцьве-Крыўі паўстаў праект ажаненьня вял. князя крывічанскага («літоўскага») Ягайлы з польскай каралеўнаю Ядзьвігаю і займа ім польскага пасаду. Умова аб гэтым была зроблена ў крывічанскім месьце Крэве (цяпер местачка Ашмянскага павету з даўнейшым замчышчам) і ведама пад назовам Краўской вуніі. Акт Краўскае вуніі паміж іншым зьмяшчаў абяцаньне Ягайлы прылучыць Вялікае Княства Літоўскае да каралеўства польскага. Ня будзем тутка разглядаці пытаньня, ці Ягайла маніўся сваё абяцаньне споўніць, заняўшы польскі пасад, ды ці нарушала яно суверэннасьць Вялікага Княства Літоўскага. Было-б гэта ў ладнай меры лішняе з тае прычыны, што акт Краўской вуніі ніколі ня споўніўся. У тагачасных варунках палітычных, калі Вялікае Княства Літоўскае было гаспадарствам ладне дужшым за Польшчу, а ўсё насельніцтва Вялікага Княства было процi гэтага прылучэньня, менаванага абяцаньня Ягайлава немагчыма было ўжыцьцёвіць, як немагчыма было споўніць іншага—балей урачыстага й станаўкога абяцаньня—зьмяшчонага ў тым-жа акце, найменна забавязаньня Ягайлавага павярненьня на каталіцтва (нат прынукаю) усяго насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага.

Зараз пасьле падпісаньня Краўскае вуніі ў Ліцьве ўзьняліся паўстаньні процi Ягайлы, каторыя яго змусілі ў умове, зробленай у 1392 г. ў Востраве, прызнаць свайго брацеьніка Вітаўта Вялікім Князем Літоўскім і толькі па яго сьмерці мела быць часьць Літвы прылучана да Польшчы. Значыцца, гэтай умоваю быў нарушаны акт Краўскае вуніі.

Надабе гэтта зацеміць, што ад акту Краўскае вуніі, польскія палітыкі ўважалі Вялікае Княства Літоўскае за прылучонае да Польшчы з глєдзішча праўнага. А што

да Крывічоў, дзе прыхільнікі палітыкі Ягайлавай былі пагляду, што вунія з Польшчай карысьнейшая старане крывіцкай, бо крывіцкі князь Ягайла займае польскі пасад. Крывічы-ж—праціўнікі палітыкі Ягайлавай—а гэткіх была вялізарная бальшыня—з прынцыпу былі проці злучэньня свайго гаспадарства—Вялікага Княства Літоўскага—з Польшчаю. Наагул-жа крывіцкая старана ўважала, што, як із Польшчаю, так із кажным іншым гаспадарствам Вялікае Княства Літоўскае можа рабіць саюзы, калі яны яму карысныя пры сучаснай міжнароднай конюнктуры. Пры гэтым сваім становішчу Крывічане аставаліся ўвесь час быцьця Вялікага Княства Літоўскага.

У 1413 г. на зьезьдзе ў Горадле была зроблена новая ўмова аб адносінах між Крывіі й Польшчы. У гэтым акце, ведамым такжа пад назовам Горадзельскае вуніі, няма ані слова аб пераходзе часьці Вялікага Княства Літоўскага да Польшчы па сьмерці Вітаўта, у ім ёсьцека толькі засьцярога, што па сьмерці В. Кн. Вітаўта, Вялікае Княства Літоўскае не абярэ ягонага наступніка бяз згоды караля польскага і Польшчы, але й Палякі ня будуць магчы абраць сабе караля бяз згоды Літвы і яе вялікага князя.

Актам Горадзельскае вуніі была чыста скасавана (анулявана) вунія Краўская. Але й гэтымі варункамі былі здаволіўшыся Вітаўт і крывіцкае гаспадарня былі здаволіўшыся Вітаўт і крывіцкае гаспадарства. Яны імкнуліся да поўнае роўнасьці з Польшчай і іншымі гаспадарствамі Заходняе Эўропы нат з боку вонкашнага. Дзеля таго Вітаўт меў каранавацца за крывічанскага караля [1]).

За дзяржавы (гаспадараньня) Вялікага Князя Вітаўта (1392—1430) задзіночанае гаспадарства крывіцкае, званае Вялікім Княствам Літоўскім, даходзіць да верху свае політычна-нацыянальнае магутнасьці. У ім задзіночыліся ўсе чыста землі крывіцкія, бо нават Пскоўшчына й Цьвер прызнаюць над сабою верхнюю

[1]) I. I. Лаппо, op. cit., 103.

уладу ягоную. Із земляў чужых было прылучана Украінскае Падольле. У гэтую пару ўзмацаваліся позыцыі гаспадарства крывіцкага на берагох Чорнага мора. Нягледзячы на паражку 1399 г. ля р. Ворсклы, гаспадарства крывіцкае мела вялікія ўплывы ў Залатой Ардзе (Кіпчаку). Наагул за дзяржавы Вітаўта задзіночанае гаспадарства крывіцкае было адным із найдужшых у сучаснай Эўропе.

Ад 1440 г. пасад задзіночанага гаспадарства крывіцкага на даўгі час пераходзіць у рукі Ягайлавічаў— сына й патомкаў Ягайлавых—ажно пакуль гэтая дынастыя ня вымерла із сьмерцяй Жыгімонта III. Аўгуста ў 1572 г.

Сваёй маткаю Софіяй, з князёў Гальшанскіх, крывіцкай патрыёткаю, сыны Ягайлавы былі ўзгадаваны ў духу нацыянальна-крывіцкім. Гэта зьдзеіла, што і дальшыя Ягайлавічы, прынамся тыя зь іх, што займалі крывіцкі пасад, былі добрымі Крывічамі[1]).

Першы зь Ягайлавічаў, Казімер, быў абраны за Вялікага Князя Літоўскага з парушэньням апошніх праўных забавязаньняў аб вуніі з Польшчай.

За даўгога гаспадараньня Казімера (1440—1492) гаспадарства крывіцкае, не пашыраючыся навонкі, консолідавалася й разьвівалася ўнутры, як з боку грамадзка-політычнага, так і культурнага. За дзяржавы Казімеравай настала становая дыфэрэнцыяцыя і зьбліжэньне людзёў таго-ж стану ў усім гаспадарстве, ня гледзячы на тую ці іншую апрычонасьць асобных земляў. Гэта датычыла наўперад шляхты. Гэтак, прыкладам, шляхта северская чулася як у сябе дома ў Смаленшчыне, Полаччыне, Вільні, Горадне, на Жмудзі і г. д.,—усюды, бо ўсюды ў гаспадарстве была тая самая «брацьця шляхта» з адной ідэолёгіяй політыч-

---

1) Выняткам быў апошні зь іх, слабавольны Жыгімонт III, Аўгуст, але толькі пад канец свайго жыцьця, калі апынуўся пад уплывам польскіх езуітаў.

най, ня гледзячы на мясцовыя розьніцы гістарычныя і іншыя. Дзеля консолідацыі гаспадарства мела гэта вялізарнае значэньне. Пры такім развою немагчымым стаўся мясцовы сэпаратызм.

Ад канца XV стагодзьдзя ў задзіночанага гаспадарства крывіцкага пачынаюцца бязупынныя, адно зь некаторымі перарывамі, войны з Масквою, так характарныя ў узаемных адносінах гэтых гаспадарстваў. Войны гэтыя бывалі ізь зьменным шчасьцям.

Найцяжшай і найгоршай Крывічом сваймі рэзультатамі была вайна з Маскоўшчынаю 1558—1582 г. Пачала яе Маскоўшчына, хочучы захапіць Лівонію (прастор цяперашняе Латвы й Эстоніі), каб гэткім спосабам здабыць прыступ да Балтыцкага мора. Лівонія зьвярнулася помачы да Крыўі («Літвы»), адначасна прылучаючыся да гэтага гаспадарства. Адгэтуль у Крывічоў паўстала вайна з Маскоўшчынаю. Вайна гэтая давяла да Люблінскае вуніі з Польшчаю ў 1569 г., «бо на Вялікае Княства Літоўскае ўсё балей сунулася небясьпечнасьць звонку. Проці яго на ўсходзе стаялі Масква й Крым, а на заходзе—бязупынныя пагранічныя непаразуменьні з Польшчаю, што добра аценіла цяжкое палажэньне ягонае. Шляхта некаторых, пагранічных із Маскоўшчынаю, паветаў дамагалася вуніі з Польшчаю—дзеля абароны ад Маскоўшчыны. Падляшане й Валынцы дамагаліся вуніі, церпячы на паграніччу з Польшчаю ўціск ад Палякоў; яны спадзяваліся, што посьле вуніі перасьледваньні перастануць» [1]).

Калі вонкашная небясьпечнасьць мінула, крывіцкая старана ня прызнала Люблінскае вуніі ані на зьездах-соймах крывіцкіх, ані канстытуцыяй Вялікага Княства Літоўскага, зьмешчанай у 3-ім выданьню 1588 г. кодэксу крывіцкага права, званага Статутам Літоўскім. Было-б з гэтай вуніяй тое самае, што з папярэднімі,

[1]) Лаппо, Op. cit. 13

калі-б ня тое, што гэтай вуніяй было крывіцкае гаспадарства аслаблена, бо ад яго адарвалі іх Польшчы ўсю Украіну ды невялічкую лапіну зямлі крывіцкае (цяперашнія паветы: Аўгустоўскі, Беластоцкі, Бельскі ды малая частка цяперашняга павету Бела-Падляскага).

Але важнейшым было тое, што пасьле Люблінскае вуніі асталіся вонкашныя прычыны, каторыя да яе давялі. Гэтымі прычынамі былі акалічнасьці, што Маскоўшчына, вызваліўшыся ў 1480 г. ад татарскага ярма, а далей завалявўшы ў XVI стагодзьдзі царствы татарскія—Казанскае й Астраханскае—была зусім чыста забясьпечыўшыся на ўсходзе і магла ўсе свае сілы, пакаліччаныя рознымі турка-татарскімі гордамі, скіраваць на заход—проці гаспадарства крывіцкага. З другога боку, Польшч таксама была забясьпечыўшыся на заходзе, бо Нямеччына была падзяліўшыся на дробныя гаспадарствы. Дзеля таго Польшч у часе кажнага цяжкога ваеннага палажэньня крывіцкага гаспадарства выступала із свайго боку з ваеннымі пагрозамі, стаўляючы палітычныя вымаганьні ў хворме ўтварэньня розных вуніяў або іх дадзяржаньня.

Дзеля менаваных прычынаў, Люблінская вунія, хоць ніколі ня была праўна прызнана з боку крывіцкага, хоць ніколі ня была ўжыцьцёўлена ў сваім спачатным выглядзе, то аднак асталася, будучы ператорана ў фэдэрацыйны зьвяз двух раўнапраўных і сувэрэнных гаспадарстваў.

Гэты зьвяз быў шкодны Крывічом, што відаць із ніжменаванага.

Нягледзячы на тое, што, подле тэксту Люблінскае вуніі, абедзьве стараны—крывіцкая й польская—павінны былі сабе ўзаемна памагаць у часе вайны, Польшч альбо зусім не памагала Крывіі, альбо памагала надта мала. Гэтак, прыкладам, увесь цяжар вайны з Маскоўшчынаю за Лівонію прыпаў старане крывіцкай, і па перамозе над Маскоўшчынаю ў 1582 г.

Польшч дамагалася, каб Лівонія (Інфлянты) была вобсвасьцяй супольнай Крыўі й Польшчы.

Апрача таго Люблінская вунія адчыняла дарогу польскім уплывам на Крыўю, а ўплывы гэныя ня былі добрыя.

Розьніцы інтарэсаў гаспадарства крывіцкага і Польшчы нерашкаджалі ў працы соймаў—супольных ад Люблінскае вуніі. Звычайным зьявішчам былі «протэстацыі» паслоў крывіцкіх на гэных соймах ды адмова іх ад імя свайго гаспадарства даць згоду па рэзолюцыі сваіх польскіх сяброў. Трагічнае для Рэчыпаспалітай „veto" было ўпяршыню сказана ў 1652 г. крывіцкім паслом Сіцынскім.

«У канцы канцоў Люблінская вунія была аднэй з прычынаў, што Рэчыпаспалітая да канца свайго быцьця застыгла й задзержылася ў сваім гаспадарсьцьвеным развою. Аднэй з галоўных сілаў, што запынілі канечнэ патрэбныя рэформы, была звычайная немагчымасьць пагадзіць інтарэсы Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага; гэта стварала муе, што лепей пакінуць нязьмененае старое, чымся йсьці на ўступкі аднаму з гаспадарстваў, злучаных вуніяй. Ужо каля сту год таму зацемілі (Пямцэвіч), што каронныя соймы, каторыя з 1569 г. сталі супольныя для Польшчы й Вялікага Княства Літоўскага, дзякуючы Люблінскай вуніі, асабліва спачатку дзяржавы Жыгімонта IV Вазы, ператварыліся балей у перагаворы, чымся ў разгляд справаў. Гэта зусім зразумела, бо дзякуючы ў часе займа пасаду Жыгімонтам IV Вялікае Княства Літоўскае канчальна й хвармальна азначыла свае адносіны да Польшчы, падзяліўшы Лівонію (Інфлянты) між Польшчы й Княства (замест супольнага валаданьня ёю) і зацьвердзіўшы свой новы статут» [1]).

[1]) Лаппо, op. cit. 146.

У 1655 г. ў часе вайны Рэчыпаспалітай із Швэдзіяй ладная часьць Крывічоў, на чале з князям Янушом Радзівілам, учыніла—паразумеўшыся із Швэдамі—спробу разарваньня сувязі з Польшчаю. З прычыны паражкі Швэдзіі, спроба гэтая ня ўжыцьцёвілася.

---

З гледзішча палітычна-праўнага Вялікае Княства Літоўскае аставалася самастойным гаспадарствам крывіцкім ажно да другога падзелу Рэчыпаспалітае польска-крывіцкае ў 1793 г., калі было прылучана да Расеі. Калі аднак прыймем пад увагу мамэнт культурна-нацыянальны, дык мусім прызнаць, што, астаючыся гаспадарствам самастойным, з боку культурнага ў сваёй кіруючай сфэры перастала яно быць крывіцкім ужо ў канцы стагодзьдзя XVII [1]). Ад канца XVII стаг. дзейнікі кіруючыя гэтае гаспадарства, сьцерагучы ад Польшчы яго апрычонасьці палітычнай і гаспадарскай, з боку культурнага чыста паддаваліся ўплывам польскім. Іх гаспадарсьцьвенны патрыётызм, нягледзячы на культурна-нацыянальную асыміляцыю, характарызаваў у іх кіруючы слой народу із старой традыцыяй гаспадарсьцьвенай.

## КРЫЎЯ Ў ГАСПАДАРСЬЦЬВЕ РАСЕЙСКІМ

Посьле двух (1772 і 1793 г.) падзелаў польска-крывіцкае Рэчы Паспалітае блізу ўся Крыўя, з выняткам Беласточчыны і цяперашняга павету Бела-Падляскага, апынулася ў Расеі. У 1807 г. таксама Беласточчына была прылучана [redacted] Расеі. Павет Бела-Падляскі быў прылучаны ў 1807 годзе да Княства Варшаўскага, што ў тым-жа годзе ўтварыў Напалеон. А калі ў 1815 г., настановаю Венскага кангрэсу,

1) Глянь ніжэй у разьдзеле аб мове.

паўстала, злучанае з Расеяй, Каралеўства Польскае, Бела-Падляскі павет апынуўся ў яго межах.

Посьле прылучэньня да Расеі, Крыўя з кажнага гледзішча лучыла з агню ды ў прысак. Дык былі спробы адлучэньня ад Расеі дзеля адбудовы собскае гаспадарсьцьвенасьці. Першая спроба была ўжо ў 1812 г. у часе вайны Наполеона з Расеяй. Зрабілі яе ў бальшыні тыя самыя гаспадарсьцьвенікі крывіцкія, што, будучы пад уплывам культуры польскай, былі абыякавы на нацыянальна-крывіцкія справы. Дзеля таго гэная спроба, калі-б удалася, магла толькі давесьці да палажэньня зь перад падзелу Рэчы Паспалітае.

Француская армія рабіла мноства рэквізіцыяў у насельніцтва, апрача таго жаўнеры гэтае арміі яшчэ рабавалі, і дзеля таго адносіны люду крывіцкага да войскаў наполеонавых былі такжа няпрыязныя. Адносіны гэтыя выказваліся ў жаданьню: «Каб Пранцуз пагнаў Маскаля дый сам не вярнуўся».

Іншая спроба адлучэньня ад Расеі была ў 1863 г. ў часе польскага паўстаньня. Тады на чале паўстанцаў—былога Вялікага Княства Літоўскага стаяў як дыктатар, Кастусь Каліноўскі. Подле ягонага пляну, адбудаванае гаспадарства крывіцкае, або Вялікае Княства Літоўскае, мела быць таксама ў фэдэрацыйнай сувязі з Польшчаю. Аднак Каліноўскі быў крывіцкім нацыяналістым. Дзеля таго, каб ідэя ягоная ужыцьцёвілася, адроджаная гаспадарсьцьвенасьць крывіцкая, калі ня была-б эдушана Польшчаю, была-б у некаторай сувязі з адраджэнскім рухам крывіцкім. Дык Каліноўскі лучыў у сваёй асобе дзьве пары: з гледзішча нацыянальнага належыў да адраджэнскага руху крывіцкага, а подле ідэялаў політычных быў гаспадарсьцьвенікам пары даўно мінулай.

У 1905 годзе ў часе 1-ае рэвалюцыі ў Расеі крывіцкая політычная партыя, лічачыся з акалічнасьцьмі,

выставіла дамаганьне аўтаноміі Крыўі ў гаспадарсьцьве расейскім.

Напасьледак у 1918 г. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі абвясьціла незалежнасьць Крыўі ў яе этнаграфічных граніцах. Быў гэта чысты плод адраджэнскага руху крывічанскага. Што праўда, гэтым актам ня былі разарваны політычныя вузлы, зьвязуючыя Крыўю з Маскоўшчынаю, і Крывічы да апошняе часіны мучылiся ў няволі маскоўскай, але гэтым актам да канца была дасназана ніта новае крывіцкае думкі нацыянальна-політычнае, і думка гэтая была спапуляры-завана, родзячы масы адданых ёй энтузыястых.

Адраджэнскі рух крывіцкі мусіў заўзята ходацца з Палякамі й Маскалямі за крывіцкія душы. Дзеля таго ў усіх нацыянальна сьвядомых Крывічоў паўстаў вусім прыродны антагонізм ў вадносінах [illegible] менавэных нацыянальнасьцеў. Павялічылі яго наўперад перасьледваньні Крывічоў у вапошніх дзесятках год. Адначасна ў політычна думаючых Крывічоў што раз болей, у меру політычнага сьпеньня, расло перакананьне, што прыродным саюзьнікам Крыўі ёсьць Нямеччына і што ад яе будзе залежыць адбудова крывіцкага гаспадарства. Гэтае перакананьне ў сусьветную вайну было пашырана сярод крывіцкае інтэлігенцыі. У цяперашнюю часіну яно пашырылася сярод крывіцкіх масаў народных.

## ВЕРА

**Прыймо хрысьцянства.** Пароюі, калі хрысьцянства было ўрадова прынята ў Крыўі, быў 988 год і наступныя гады.

Хрысьцянства прыйшло зь Бізантыі за пасярэдніцтвам Кіева, каторы, як ведама, быў цэнтрам імпэрыі Рурыкавічаў. Ад прыходу Скандынаваў, званых Русамі, спачатку Кіеўшчына, а далей і ўся Украіна дастала назоў «Русь». А прыймо хрысьцянства за пасярэдніцтвам

Кіева-Русі ды герархічная залежнасьць крывічанскае царквы ад кіеўскае мітраполіі (мітраполія свая ў Ноўгарадку паўстала ў канцы стаг. XIII) зьдзеіла, што хрысьцянства ўсходняга абраду было ў Крыўі звана верай «рускай», вернікі яго «Русяй, Русінамі». Побач із гэтым, але ў шмат меншай меры, хрысьцянства ўсходняга абраду мела назоў у Крыўі веры грэцкай, а хрысьцяне гэтага абраду зваліся Грэкамі. Назоў «руская вера, Русь, Русін» удзержыўся ў Крыўі за ўсходнім абрадам, гэта значыцца, за праваслаўнымі й вуніятамі, цераз усе часы, а часткава на'т дагэтуль.

Герархічная залежнасьць крывіцкае царквы ад Константынопаля (цераз Кіеў) зьдзеіла тое, што ў догматычным падзелам (у 1054 г.) хрысьцянства на царкву ўсходнюю або грэцкую і заходнюю—рымскую Крыўя апынулася ў царкве грэцкай.

Есьцека даныя, што былі такжа Крывічы-каталікі, але, аж да канца XIV стаг., маглі быць імі толькі адзінкі.

**Нацыяналізацыя праваслаўнае царквы ў Крыўі.** Тым балей крывічанская царква эманцыпавалася ад кіеўскае мітраполіі, тым балей праваслаўе ў Крыўі рабілася крывічанскай вераю нацыянальнай. Асабліва праваслаўе ў Крыўі нацыяналізуецца ад паўстаньня ў Ноўгарадку собскае мітраполіі, а яшчэ балей ад часу, калі з прылучэньням Кіеўшчыны да задзіночанага гаспадарства крывіцкага сяліба кіеўскіх мітраполітаў была перанесена спачатку ў Ноўгарадак, а пасьлей у Вільню.

**Паганская Жмудзь і Аўкштота.** Нацыянальным характарам праваслаўя ў Крыўі ў XII—XIV стагодзьдзех надабе выясьніць факт, што ня было пропаганды праваслаўя сярод народаў узбалтыцкіх (Лівонія, Жмудзь, Аўкштота)[1]. Рэзультатам гэтага было тое, што

[1]) Проф. F. Koneczny

Аўкштота аставалася ў паганстве да канца стаг. XIV, а Жмудзь была ахрышчана ажно ў стаг. XV.

Паганскасьць часьці насельніцтва гаспадарства была зьявішчам ад'емным такжа з гледзішча політычнага, бо кампраміттавала крывіцкае гаспадарства ў ваччу Заходняе Эўропы і была прычынаю ваеннае агрэсіі з боку Крыжакоў. Дзеля таго крывіцкая політыка, напасьледак, пастанавіла палажыць гэтаму канец.

Дынастыя задзіночанага гаспадарства крывіцкага, званага Вялікім Княствам Літоўскім, наўперад была праваслаўнаю. Праўда, ведаем, што Вялікі Князь Міндоўг якісь час быў каталіком, але ўплывы праваслаўя у яго радзіме мусілі быць даволі вялікія, калі сын ягоны Вайшэлк стаў мніхам праваслаўным і быў закладаньнікам праваслаўнага манастыра на беразе Нёмна. Мала ведаем аб вераі Вял. Князя Гедыміна, але сын ягоны Альгерд разам із усімі сваімі сынамі, ня вылучаючы Ягайлы, быў праваслаўны.

Дзеля менаванага ў канцы семдзесятых год XIV стаг. Вялікі Князь разам ізь іншымі Гедымінавічамі зьвярнуліся [redacted] крывіцкае герархіі праваслаўнае з пасуленьням ахрысьціць Аўкштоту й Жмудзь. Але дасталі адказ адмоўны.

**Прыйманьне каталіцтва.** Дык мусілі шукаць іншага выхаду. Па колькіх гадох гэтае пытаньне зьйшлося з праектам займа Вялікім Князям Ягайлам польскага пасаду. Дык дайшло да таго, што Вялікі Князь, разам із блізкімі да пасаду іншымі князьмі і баярскімі родамі пастанавілі прыняць каталіцтва адначасна з усім насельніцтвам гаспадарства (а ня толькі Жмудзяй і Аўкштотай). З боку політычнага гэткае разьвязаньне справы было разумна абдумана, бо насельніцтва гаспадарства з гледзішча рэлігійнага было-б суцэльным.

Надабе дапушчаць, што магчымасьць пераходу праваслаўных князёў крывіцкіх на каталіцтва з боку псы-

хіцнага было прыгатавана дыплёматычнымі зносінамі іхнімі зь Немцамі.

Пастанова прыйма каталіцтва была ўнесена ў вакт Краўскае вуніі 1385 г., што між іншым зьмяшчаў абяцаньне Ягайлава навярненьня на каталіцтва—на'т прынукаю—усяго насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага. Як потым аказалася, ня было магчымасьці споўніць гэтае абяцаньне. Дзеля таго на каталіцтва перайшла тольві бальшыня Гедымінавічаў, ды некаторая часьць іншых князёў і блізкіх [redacted] пасаду баярскіх родаў крывіцкіх, а ўвесь народ крывіцкі ды ўкраінскі асталіся пры праваслаўю. Ведама, была ахрышчана подле рымскага абраду Жмудзь і Аўкштота. Адгэнуль ужо ёсьць некаторая маса Крывічоў-каталікоў, хоць невялічкая ў адносінах да цэласьці народу крывіцкага. З гледзішча нацыянальна-культурнага Крывічы-каталікі нічым ня розьніліся [redacted] Крывічоў праваслаўных.

**Адносіны дынастыі да праваслаўнае царквы.** Цікава зацеміць, што ў тыя часы рэлігійнага фанатызму Вялікі Князь Вітаўт і Ягайлавічы, дарма што горача жадалі задзіночаньня насельніцтва свайго гаспадарства ў воднэй веры, ня тольві былі толеранцыйныя [redacted] праваслаўных, але вельмі часта адносіліся да праваслаўнае царквы зь вялікай пашанай. У поўнай меры гэта адносіцца да Вялікага Князя Вітаўта. Але й Ягайла, каторага дзеля яго радыкальнага абяцаньня навярненьня на каталіцтва на'т прынукаю, гісторыкі часта ўважаюць за прозэліта-фанатыка, запраўды ня быў фанатыкам. Ён ня тольві не перасьледаваў праваслаўных, але й прыяў праваслаўнай царкве. Ведама, прыкладам, што на Констанцкім саборы ён вінаваціў Крыжакоў у паруханьню (зруйнаваньню) праваслаўнае царквы ў Вільні, не рабіў пры гэтым розьніцы між сьвятыняй праваслаўнай і каталіцкай. Прыведзенае вясьняецца тым, што Ягайлавічы мелі вялікія традыцыі права-

слаўныя. Маці Ягайлавічаў, каралева Софія, таксама паходзіла з роду праваслаўных князёў Гальшанскіх.

**Шырэньне протэстанцтва ў Крыўі.** Дальшая ладная зьмена ў ваднносінах рэлігійных у Крыўі настала ў стаг. XVI у сувязі з рэформацыйным рухам ў каталіцкай царкве на Заходзе. Пераз крывіцкую моладзеж, што вучылася на заходне-эўрапэйскіх унівэрсытэтах, рэформацыйны рух, зараз па сваім паўстаньню, перакінуўся ў Крыўю. Ен шырыўся вельмі борзда паміж шляхты й мяшчанства. Шляхта пераходзіла на кальвінства, з часам такжа на соцыніянства (антытрынітарства), мяшчане звычайна на лютэранства. Протэстанцкім рухам апекаваліся крывіцкія магнаты. Апякуном кальвіністых быў князь Мікалай Радзівіл Чорны, што меў сваю рэзыдэнцыю ў Нясьвежу. Соцыніянствам апекаваліся Кішкі, маючыя свой асяродак у Лоску ў цяперашнім павеце Валожынскім.

У борздым часе вялізарная бальшыня шляхты крывіцкай і часьць мяшчан перайшла на веру евангеліцкую (протэстанцкую).

**Пропаганда каталіцтва.** Але вось настае каталіцкая рэакцыя. Зьяўляюцца езуіты, у Крыўі раней як у Польшчы. У Вільні ў 1569 г. была заложена езуіцкая колегія, борзда пертвораная ў вакадэмію. Кошты на яе наўперад даў каталіцкі біскуп віленскі, Валяр'ян Пратасэвіч, Крывіч. Езуіцкімі школамі борзда быў усеяны ўвесь край. Крывіцкая шляхта й мяшчане, як протэстанты, так і праваслаўныя ахвотна аддавалі свае дзеці ў езуіцкія школы, што тады стаялі на высокай роўні. Яны не баяліся, што іхнія дзеці, гадуючыся ў езуітаў, пярэйдуць на каталіцтва; гэта-ж дагэнуль 2 стагодзьдзі крывіцкая моладзеж вучылася на каталіцкіх унівэрсытэтах заходне-эўропэйскіх, а ня было прыпадкаў пераходу на каталіцтва. Гэтак думаючы, яны ня прыймалі пад увагу факту, што на Заходзе ўнівэрсытэты мелі напэўвеце моладзеж каталіцкую, а ў Крыўі езуіцкія ўнівэр-

сытэты або акадэміі мелі заданьні місыйныя. Дзеля таго зь езуіцкіх школаў у Крыўі моладзеж выходзіла каталіцкаю. Гэткім парадкам сталася, што за пасярэдніцтвам рэформацыі і беспасярэдне вялізарная бальшыня шляхты крывіцкай—у гэтай лічбе блізу ўсе выдатныя роды—ды шмат мяшчанства перайшло ў каталіцтва.

**Царкоўная вунія.** Праваслаўным аставалася сялянства, бальшыня мяшчанства і часьць драбное шляхты. Каб і гэтых праваслаўных навярнуць на каталіцтва, паўстаў проект царкоўнае вуніі, г. зн. злучэньня праваслаўных із Рымам із захаваньнем аднак усходняга абраду. Зрабеньню царкоўнае вуніі прыяла акалічнасьць, што праваслаўная царква ў Крыўі пераживала тады моральны й арганізацыйны крызіс (перакрыш).

Праваслаўная вышшая герархія крывіцкая прыступіла ад імя свае царквы да вуніі на царкоўным саборы ў Берасьцю 1596 г. Адгэнуль увесь век XVII і часткава XVIII адбывалася навярненьне праваслаўных на вунію. Дзеля таго што просты народ ня мог арыентавацца ў догматычнай розьніцы абедзьвіх вераў, а ў вабрадзе ня было розьніцы, перамога ў кажным асобным прыпадку наўперад залежыла ад таго, да якое царквы належыў біскуп і настаяцель у дадзенай мясцовасьці. Сьвецкая ўлада ў такіх прыпадках мела шырокае поле да мяшаньня. А дзеля таго, што ўлада была ўжо каталіцкая, яна найчасьцей падзьдзержавала вуніятаў з крыўдаю для праваслаўных. Надабе ведаць, што ад рэлігійнае толеранцыі з часоў крывіцкае дынастыі Ягайлавічаў цяперка нічагусенькі не асталося. Дык было шмат несправядлівасьцеў і гвалтаў. Разгарэлася фанатычнае рэлігійнае ходаньне (барацьба) сярод таго самага народу. Ведама, што гэткі спосаб наварачаньнеў на вунію быў шкодны крывіцкаму народу.

**Умацаваньне вуніі.** У стагодзьдзю XVIII царкоўная вунія ў Крыўі зусім чыста запанавала. Хто ня быў

лацінынікам, той быў вуніятам. Праваслаўных Крывічоў у собскім гаспадарсьцьве аставалася вельмі мала, праўда, што й гаспадарства гэтае не абыймала ўжо цяпер усіх земляў крывіцкіх, як гэта было калісь за часоў красаваньня гаспадарсьцьвенасьці крывіцкай. Адылі (аднак) надабе зацеміць, што вялізарная бальшыня вернікаў зь перакананьня належыла цяпер да вуніі. А вуніяцкая царква ў гэтым часе свае духоўныя, маральныя і нацыянальна-культурныя павіннасьці да народу крывіцкага (беларускага) спаўняла зусім добра. Наагул гэта была ўжо царква карысная нацыянальнасьці крывіцкай. Дык характар царквы беларускай, які ўперад мела праваслаўе, цяпер перайшоў на царкву вуніяцкую.

**Скасаваньне вуніі.** Дзеля вышменаванага было шкодным, калі посьле прылучэньня Крыўі да Расеі ў часе I і II падзелу польска-крывіцкае Рэчы Паспалітай расейскі ўрад пачаў перасьледаваць тых, што былі перакананымі вуніятамі, бо вуніяты з прынукі самі цяпер павярнуліся ў праваслаўную царкву.

Уцякаючы ад перасьледваньня, вуніяты, ня гледзячы на перашкоды, масава пераходзілі на абрад лацінскі, бо каталікі гэтага абраду не перасьледваліся. Уцёкі вуніятаў у лацінскі абрад прынялі вялізарныя разьмеры за дзяржавы (гаспадараньня) цароў Паўлы й Аляксандры I, што падзьдзержвалі рымска-каталіцкую царкву і ад яе біскупаў зрабілі залежнай беларускую царкву вуніяцкую. У 1839 г. расейскі ўрад скасаваў вунію. Часьць вуніятаў была сілком прынучана (прымушана) да пераходу ў праваслаўе, іншая часьць, ня гледзячы на перашкоды, перайшла ў вабрад лацінскі.

Напасьледак у Крыўі (Беларусі) заходняй некаторая колькасьць праваслаўных перайшла ў каталіцтва (лацінскае) за апошнія дванцаць год (1921—1939) прыналежнасьці яе да Польшчы. Гэты пераход блізу заўсёды быў з прычыны фактычных агранічэньняў польскай уладаю крывіцкага насельніцтва праваслаўнага.

**Вера ў Крыўі цяперка.** Дык так сталася ў працягу вякоў, што цяперка крывіцкі народ з гледзішча рэлігійнага дзеліцца на праваслаўных і рымскіх каталікоў, пры гэтым астатніх каля 4-х міліёнаў па каля 18 міліёнаў праваслаўных. Крывічоў веры евангеліцкае вельмі мала. Апрача таго ёсьцека каля 10 тысячаў Крывічоў мусульманаў.

З боку нацыянальнага мае значэньне не падзел на розныя веры з гледзішча догматычнага, але падзел подле абрадаў, хоцьбы тае самае веры (рымскія каталікі і грэцкія каталікі або вуніяты). Дзеля таго зусім добра можна ўважаць, што падзел народу крывіцкага з гледзішча рэлігійнага на дзьве вялікія часьці стаўся толькі ў канцы XVIII в., бо ўперад Крывічоў лацінынікаў адносна было мала.

Крывічы праваслаўныя й каталікі ня толькі таго самага паходжаньня і тае самае псыхікі, але й маюць тыя самыя традыцыі гісторычныя і тыя самыя звычаі. Апрача таго Крывічы-каталікі не насяляюць апрычонага прастору, але пamешаны з праваслаўнымі і дзеля таго ня гукаюць апрычонным жарэччам ані на'т якой-колечы апрычонай гаворкай языка крывіцкага (беларускага), але ўсюды карыстаюцца тэй самай мовай, што й Крывічы праваслаўныя.

Непрыязьнь між Крывічоў праваслаўных і каталікоў, пасеяная маскоўскай і польскай прапагандаю, цяперака з адраджэнскім рухам крывіцкім блізу ўсюды шчэзла, і ўсе Крывічы бяз розьніцы вераў уважаюць сябе за братоў—сяброў таго самага народу крывіцкага.

## МОВА Й КУЛЬТУРА

### АД ПАЧАТКУ ДА КАНЦА СТАГОДЗЬДЗЯ XIII.

**Мова.** Дарма, што народ крывіцкі (беларускі) паўстаў ізь зьліцьця часьці славян із часьцяй Балтаў, мова крывіцкая (беларуская) належыць да радзімы мо-

маў славянскіх. Элемэнтаў балтыцкіх у ёй блізу што няма ніякага.

Падобна, як іншыя мовы славянскія мова крывіцкая апрычылася (выдзелілася) з мовы праславянскае не пазьней як у VI в. па Хрысту. Найстаршыя асаблівасьці мовы крывіцкае, супольныя її зь іншымі мовамі славянскімі, паказуюць, што апрычэньне мовы крывіцкае настала беспасярэдне, г. зн. што паміж яе а мовы праславянскае ня было ніякае пасярэдняе.

**Літаратура. а) Рэлігійная.** Літаратура ў Крывічоў пачынаецца з прыймом хрысьціянства ў канцы X в. Літаратурнаю моваю была спачатку мова царкоўна-славянская (стара-баўгарская). Вымова царкоўна-славянскіх тэкстаў была крывіцкая.

Да прыйма хрысьціянства Крыўя наагул была зусім насьпеўшы дзеля таго пасьле яго прыйма тут борзда разьвіваецца культурнае жыцьцё.

Адначасна з прыймом хрысьціянства была перанесена ў Крыўю рэлігійная літаратура ў мове стара-баўгарскай, каторую далей перапісывалі. Адначасна рабілі новыя пераклады з грэцкае мовы. Няздаўга паўстае літаратура арыгінальная. Вышшага свайго развою дахозіць яна ў стаг. XII, каторае наагул з глядзішча культурнага стаіць вельмі высака.

Культурнае жыцьцё, а значыцца і літаратурнае засяроджуецца ў мястох, найперад у большых асяродках палітычных, як Смаленск, Полацак, Тураў, Віцебск, Горадзен (ля Нёмна), Чарнігаў, Ноўгарад-Сіверскі. У стаг. XII на першае места ў культурным жыцьцю выбіваецца Смаленск. У гэтым часе выдатным і плодным крывіцкім пісьменьнікам рэлігійным быў тут Клім Смаляціч (ад 1147 г. кіеўскі мітрапаліт). Іншым ізноў выдатным пісьменьнікам быў у Смаленску Аўраам Смаленскі; ён быў адначасна маляром.

«Клім Смаляціч і Аўраам Смаленскі—гэта зьзяючыя

зоры на смаленскім гарызонцэ. Адылі (аднак) яны ня былі зьявішчам прыпадкавым, бо ў Смаленску былі школы, а перапісаваныя рукапісы й кнігі знаходзілі збыт. Смаленск даў сьцяг харошых твораў літаратурных, пачынаючы ад лістоў Кліма Смаляціча, жыцьцяпісу Аўраамавага, напісанага ягоным вучаньнікам Ахрэмам, а канчаючы павесьцяй аб Мяркуру, падарожжам Ігната Смальняніна ў Палестыну, й Канстантынопаль і шмат іншых. На жаль, шмат літаратурных памяткаў загінула, прыкладам Смаленскі летапіс... У гісторыі асьветы ў стаг. XI—XII на ўсходзе Эўропы роля Смаленска ня меней важная за ролю Кіева» [1]).

Геніяльным пісьменьнікам-казаньнікам быў сьвяты Кірыла (+1182), званы Тураўскім, бо паходзіў з тураўскіх мяшчан і быў біскупам ў Тураве. Ён дасканальна знаў візантыйскую літаратуру. Ён карыстаўся вялізарнай пашанай і славай. Творы ягоныя шырыліся ня толькі ў Крыўі, але такжа ў іншых краёх праваслаўных, бліжшых і дальшых (Баўгарыя, Сэрбія). Казаньніцкі талент Кірылаў ня знаў сабе роўнага. Творы ягоныя дагэтуль ня страцілі свайго хараства. «Словы Кірылы Тураўскага, кажа гісторык царквы, проф. Галубінскі, зьяўляюцца зусім чыста такімі творамі казаньніцкімі, як казані сучасных нам навучоных казаньнікаў. Каб перакласьці іх на мову расейскую і сказаць, што гэта творы такога й такога казаньніка сучаснага, дык хіба толькі тыя ня былі-б уведзены ў вабмылу, што найдасканальней знаюцца на гэтага роду літаратуры».

Казані Кірылы Тураўскага сьветчаць аб высокай роўні інтэлектуальнай тагочаснага грамадзтва крывіцкага, з каторага паходзілі слухачы ягоных казанеў.

Выдатнай дзеячкаю культурна-асьветнай была ў тым-жа веку княжна полацкая Еўфрасіня-Прадслава, унучка Усяслава Вялікага. У Сялцу ля Полацка яна за-

1) Довнар-Запольскій, op. cit. 67.

заснавала жаноцкі манастыр імя Хрыста Спаса і шырака арганізавала там перапісваньне кніжак.

б) **Літаратура сьвецкая.** Але ня толькі была літаратура рэлігійная. На аснове творства народнага і літаратуры рэлігійнае паўстала мастацкая літаратура сьвецкая. Гэта былі эпічныя песьні аб гэроях-багатырох ды цэлыя поэмы. З даўнейшага эпосу гэроічнага, дахаванага дагэтуль на поўначы Расеі (т. зв. Быліны), а ў фрагмэнтах таксама ў беларускім творстве народным можна ўстанавіць быцьцё эпічных песьняў або поэмаў аб полацкай княжне Рагнедзе (ўмерла ў канцы X стагодзьдзя), ды сыну ейным полацкім князю Ізяславу (+ 1001). Фрагмэнты дзіўна-харошай поэмы аб полацкім князю Усяславу Вялікім (+ 1101) ды фрагмэнт поэмы аб полацкім князю Ізяславу Васількавічу захаваліся ў повесьці з канца XII стагодзьдзя, ведамай пад назовам «Слова а палку Ігараве» [1]).

Цэлаю дайшла да нас надзвычайна харошая поэма аб паходзе ноўгарад-северскага князя Ігора на Полаўцаў у 1185 г., напісаная ў тым-жа годзе ў Севершчыне [2]) значыцца Крывіцкая.

---

[1]) Евг. Ляцкій: Слово о полку Игоревѣ у Празе 1934, бал. 55, 92, 93, 141.

[2]) Знаўцы тагочаснай літаратуры мастацкай, проф. Еўг. Ляцкі, у сваёй працы „Слово о полку Игоревѣ" Прага 1934, зусім пераконуюча давёў, што ведамае „Слова аб палку Ігоровым" паўстала такім спосабам, што поэму аб паходзе северскіх князёў, на чале з ноўгарад-северскім князям Ігорам, на Полаўцоў, напісаную ў 1185 г. у Севершчыне, ды меншую і меней мастацкую за яе поэму аб кіеўскім князю Сьвятаславу, напісаную ў Кіеве, няведамы рэдактар таксама Кіяўлянін — злучыў у вадным творы ды ілюстраваў фрагмэнтамі песьняў і поэмаў з даўнейшых часоў аб князёх Крывічанскіх — Алегу Сьвятаславічу, Усяславу Вялікім полацкім і Ізяславу Васількавічу, дадаючы таксама фрагмэнты песьняў аб князёх сучасных. У паўсталым такім парадкам твору поэма аб паходзе северскіх князёў на чале з Ігорам была цэнтральнай і найгалоўнейшай часьцяй складовай (там-жа, бал. 55).

Цяперка ўстаноўлена, што цэнтрамі мастацкае поэзii сьвецкае былі ў Крыўі Полацак і Ноўгарад-Северскі. Адылі з усёй пэўнасьцяй можна дапушчаць, што такім цэнтрам быў такжа Смаленск, а хіба і іншыя сучасныя крывіцкія цэнтры політычна-культурныя.

**Архітэктура.** Іншай галіною культуры была архітэктура. З прыймом хрысьцянства ў політычных цэнтрах ставілі каменныя царквы. Із сваіх цэркваў і іх архітэктуры слылі Полацак, Смаленск, Віцебск, Горадзен, Чарнігаў. Як працяг культурных уплываў арабскіх пярэдняе пары (да прыйма хрысьцянства, глянь вышэй), цікава будзе адцеміць, што стыль крывіцкіх цэркваў XI—XIII стаг. паходзіў не з Канстантынопалю, ня з бліжшае Візантыі, але із Сырыі. На гэтай аснове ў разгляданую пару паўстаў крывіцкі стыль царкоўнае архітэктуры, апрычоны ад Кіеўскага й маскоўскага [1]). Таксама муравалі княжыя замкі.

**Культурныя ўплывы.** У першую пару (VIII—X стаг.) былі культурныя ўплывы арабскія, што ў стаг. X, у сувязі з прыходам норманаў былі пераможаны ўплывамі бізантыйскімі, рэзультатам чаго было прыймо хрысьцянства з Канстантынопалю. Адылі (аднак) адначасна былі некаторыя ўплывы заходне-эўрапейскія, што ад начатку XII удачна супаруюць із уплывамі бізантыйскімі, а ў жыцьцю сьвецкім пануюць. Ладнае ўзмацненьне ўплываў заходніх, значыцца нямецкіх, прыпадае на час ад першых год XIII стаг. Заходне-эўрапейскія ўплывы ішлі галоўна за пасярэдніцтвам гандлёвых зносінаў, наўперад із ганзаю нямецкай. Немалое мелі значэньне такжа зносіны ваенныя з немцамі (крыжакамі). Аднолькава, як на захадзе, у Крыўі вытварыўся собскі стан рыцарскі. Крывіцкія рыцары адзначаліся тымі самымі цнотамі, што і рыцарства заходне-эўра-

---

1) Проф. М. Шчакаціхін: Нарысы гісторыі беларускага мастацтва, Менск.

пейскае, значыцца адвагаю, пачуцьцём гонару, набожнасьцяй, пачуцьцём навіннасьці, вернасьцяй даваму слову, пачуцьцём собскага дастаенства. Сьветчаць аб гэтым сучасныя. Гэтак, прыкладам, ведамы крыжацкі хронікар, Пётра Дусбург, кажа, што сучаснае яму рыцарства полацкае ні ў чым ня ўступала рыцарству заходне-эўрапейскаму.

Ня тольві сваім паходжаньнем чыста арыйскім, але такжа ваўсёднымі зносінамі із Заходам—наўперад із немцамі й Скандынаўяй—Крыўя належыла да культурнае заходне-эўрапейскае сфэры. Відаць гэта із сучаснае абычайнасьці крывічоў.

## АД ПАЧАТКУ XIV СТАГОДЗЬДЗЯ ДА КАНЦА XVII

**Крывіцкая мова.** Ня так як у бальшыні іншых краёў, дзе мова літургічная даўгі час аставалася моваю літаратурнай, у Крыўі рана настае вызваленьне ад уплываў мовы царкоўна-славянскае. Наўперад гэта сталася ў княствах Полацкім і Смаленскім, дзе гэтаму прыяў вялікі развой жыцьця гандлёвага, грамадзкога й політычнага, значыцца жыцьця ня будучага пад беспасярэднім уплывам духавенства. Ужо ад пачатку стаг. XIII у ненаваных гаспадарствах крывіцкіх, у справах практычных, пішуць накрывіцку, а не пацаркоўна-славянску. Тое самае адносіцца да гандлёвых і дыплёматычных зносінаў із сумежнымі гаспадарствамі. Характарна для жыцьця полацкага, што тамка па'т біскупы пісалі ў гэтых справах у мове народнай, зь невялічкімі асаблівасьцямі мовы царкоўна-славянскае.

Даўгі час была гэта крывіцкая мова народная, значыцца кажны пісаў сваей гаворкай мясцовай. Але ў канцы XIV стаг. маем ужо крывіцкую мову літаратурную, супольную ўсім Крывічом. Яна паўстала на аснове крывіцкіх гаворкаў народных паўднявой часьці Полаччыны ў вужшым значэньні гэтага слова, наіменна

на прасторы няцаўных паветаў: Браслаўскага, Дзісенскага, Лепельскага, Сянского, Барысаўскага і часткава Капыскага [1]). Гэта была мова вельмі скрысталізаваная. Як мова літаратурная, мова вышшых сфэраў ды гаспадарсьцьвеная, яна ўжывалася на ўсім прасторы Вялікага Княства Літоўскага, значыцца, такжа на Жмудзі й Украіне. Асталася яна на Украіне на'т тады, калі гэта была адарвана—у часе Люблінскае вуніі 1569 г.—ад гаспадарства крывіцкага і прылучана да Польшчы, але тады, будучы адарвана ад матчынага пня, што раз балей там упадае, паддаючыся ўплывам польскім.

Старая крывіцкая мова літаратурная была такжа моваю дыплёматыі на ўсходзе Эўропы.

**Назоў старакрывіцкае мовы.** Мы бачылі вышэй, што ад палавіны XIII стаг. Крывічы часткава зваліся Ліцьвінамі, Літвой. Ад паловы XIV стаг. назоў гэты ў Крывашосінах да Крывічоў пераважае над назовам «Крывічы», а далей назоў «Літва, Ліцьвіны» стаецца адзіным нацыянальным назовам Крывічоў. Нягледзячы на гэта, сваю мову, як літаратурную, так і народную, Крывічы звалі «рускай». Ё на гэта мноства довадаў. Прыкладам, няма сумлеву, што моваю гаспадарсьцьвенай Вялікага Княства Літоўскага была мова крывіцкая, так сама кодэкс права В. Кн. Літоўскага, званы Статутам Літоўскім, быў выданы ў мове крывіцкай, але менаваны кодэкс заве гэтую мову «рускай» [2]).

У «Аль Кітабе», рэлігійнай кнізе крывіцкіх мусульманаў, напісанай у XVI стаг. у крывіцкай мове народнай, сказана: «паруску няхай абракаецца» і

[1]) Станкевіч Я., Рэцэнзія працы Stang Chr.: Die weissrussische Kanzleisprache des Grossfürstentums Litauen („Balticoslavica" II, Вільня, бач. 374 і наст.).

[2]) Глянь у „Статуце Літоўскім": а пісар земскі маець паруску, літарамі й словы рускімі ўсі лісты, выпісы й позвы пісаці (подле цяп. прав.).

тут-жа прыведзена крывіцкая формула абраканьня (ахвяраваньня).

Званьне крывіцкай мовы «рускай» паходзіла стуль, што Крывічы з гледзішча рэлігійнага заўсёды зваліся «Русяй, Русінамі» (глянь вышэй), бо дасталі хрысьцянскую веру за пасярэдніцтвам Кіева—Русі. Дзеля таго-ж былі «рускімі» рэлігійныя кнігі царкоўна-славянскія і кірылічнае пісьмо гэных кнігаў. А калі гэтая мова была заменена спачатку часткава крывіцкай моваю народнай, а далей блізу зусім чыста літаратурнай, пісьмо асталося ранейшае, значыцца «рускае», а стуль і назоў мовы «руская», спачатку пісанай, а далей і гуканай.

Прыйму назову «руская» для мовы крывіцкае прыняла такжа тая акалічнасьць, што ў X—XI в. побач із назовамі плямённымі, а ў XII—XIII побач із назовамі плямённымі й агульна-нацыянальным «Крывічы», пад уплывам прышлых Нормана-Русаў, назовам Крывічоў політычным, а не нацыянальным—часткава быў «Русь, Русіны, Русічы». Гэта адносіцца да тых часьцеў народу крывіцкага, што даўжэйшы час былі ў сфэры політычных уплываў цэнтру імпэрыі Рурыкавічаў у Кіеве, значыцца наўперад да Севяран і Дзераўлян.

Тагачасныя Маскалі ды Украінцы таксама звалі сваю мову «рускай». Дык як можна было адрозьніць адну ці другое? Вось-жа адрозьневаць было лёгка, бо кажны народ зваў кажную з трох моваў апрычоным назовам. Гэтак Крывічы (Беларусы) мову маскоўскую так і звалі «маскоўская». Гэтак-жа маскоўскую мову звалі Украінцы. А Маскалі мову крывіцкую звалі «літоўскай». Украінцы тэксты беларускае мовы літаратурнае вымаўлялі часткава—на колькі гэта дазваляў яго крывіцкі правапіс—паўкраінску, а, гукаючы гэтай моваю, праўдападобна, вымаўлялі яшчэ балей або й чыста пасвойму; дзеля таго—ды пад асыміляцыйным уплывам крывіцкім—уважалі крывіцкую мову літара-

турную за сваю собскую і звалі яе «рускай», а крывіцкую мову народную звалі заўсёды «літоўскай». Крывічы ўкраінскую мову народную звалі розна—«валынская, чаркаская» і інш., але ніколі ня руская. Палякі крывіцкую мову, як літаратурную, так і народную часткава звалі «літоўскай», а ў бальшыні прыпадкаў, дзеля даволі частых зносінаў з крывіцкай шляхтаю, звалі яе—пакрывіцку—«руская».

Званьне тым самым назовам «руская» свае мовы кажпым із трох—Крывічоў, Украінцаў, Маскалёў—розных народаў мела сваё жарало ў супольнай «рускай» веры ды ў імпэрыі Русаў-Рурыкавічаў, у межы каторай ўходзіла ў сваім часе ўся Украіна, уся пазьнейшая Маскоўшчына ды меншая або большая часьць—як да пары—Крыўі.

**Літаратура.** а) **Рэлігійная.** У гэтую пару вельмі разьвілася ўсестароньняя літаратура рэлігійная. Мае тут вялікае значаньне пераклад біблі на мову крывіцкую. Часткава біблія была ўжо перакладзена ў XV в., але поўны пераклад зрабіў у першай чэцьверці XVI в. др. Пранціш-Юры Скарына. Ад біблі Скарыны ўся літаратура рэлігійная борзда пераходзіць із мовы царкоўнаславянскае на крывіцкую, калі дагэнуль толькі творы сьвецкія былі пісаны пакрывіцку. У стаг. XVI пры царкоўна-славянскай мове астаюцца толькі кнігі літургічныя.

б) **Літаратура сьвецкая.** Яшчэ балей, як рэлігійная, разьвілася ў гэтую пару літаратура сьвецкая.

Ё тутка розныя серадняведчныя павесьці й раманы, як міжнародныя—Аб каралю Гвідону, Аб рыцару Таўдулу, Трыстан і Ізольда і інш.,—так нацыянальныя («Волат Волатавіч» і інш.)

Літаратуру гістарычную наўперад прадстаўлялі т. зв. літоўскія летапісы. Хундамэнт ім быў паложаны ў Смаленску ў канцы XIV і на пачатку XV в. Далей

яны былі пісаны па ўсёй Крыўі. Ё колькі рэдакцыяў гэтых крывіцкіх летапісаў. Яны адзначаюцца консэквэнтным і гарачым патрыётызмам нацыянальным і гаспадарсьцьвенным. Апрача звычайных веданьпеў аб розных здарэньнех, гэтыя летапісы маюць шмат мастацкіх павесьцяў і апавяданьнеў, часта вельмі харошых, прыкладам «Перамога Альгерда над Масквою», «Пахвала Вялікаму Князю Вітаўту»[1]). Сваёго роду гістарычным фальсыфікатам ё даўгое апавяданьне аб паходжаньню Крывічоў з Рыму. Мэтаю яго было давесьці, што шляхта крывіцкая, важнейшая, лепшага паходжаньня, як шляхта польская.

Прыкладам тагачаснай крывіцкай літаратуры аратарскай ё мовы князя Лява Сапегі, канцлера Вялікага Княства Літоўскага.

Зь літаратуры сатырычнай надабе наўперад назваць «Мову смаленскага каштэляна Мялешкі», быццам сказаную ім на сойме.

З поэзіі вершаванай успомню аб вершах Пр. Скарыны, Андрэя Рымшы і Я. Пашкевіча.

Літаратуру філёзофічна-пэдагогічную наўперад прадстаўляе др. Пр. Скарына сваймі перадмовамі да асобных кнігаў зробленага ім перакладу сьвятога пісьма (1517 г.). Ён быў ініцыятар асьветы ўсяго народу.

**Права крывіцкае.** Надзвычайных рэзультатаў дапялі даўнейшыя Крывічане ў галіне права.

Ужо ў пары напярэдняй—апрычоных гаспадарстваў крывіцкіх—ня толькі мусіла быць разьвіўшыся крывіцкае права звычаёвае, але адносіны ў гандлю міжнародным, а часткава і нутраным нормаваліся правам пісаным, так званымі «тарговымі праўдамі». У задзіночаным гаспадарсьцьве крывіцкім, званым Вялікім Княствам Літоўскім, спачатку было крывіцкае права звы-

[1]) Станкевіч Я.: Павесьці й апавяданьні беларускіх (крывіцкіх) летапісцаў („Маладая Беларусь", Вільня, 1936).

чаёвае [1]) ды конституцыі асобных земляў крывіцкіх, вытвараныя ў папярэднія вякі. Іх гарантавалі Вялікія Князі Літоўскія, спачатку агульнымі забавязаньнямі, выказаванымі ў заяве: «Мы, Вялікі Князь, старыну ня рухаем, а навіну ня ўводзім», а далей адумысловымі гваранцыямі ў хорме, т. зв. прывілееў. Гэтак, Вялікі Князь Вітаўт выдаў такую конституцыйную гваранцыю землі Полацкай, Віцебскай і Смаленскай. Гэтыя конституцыі між іншым гарантавалі асабістую бясьпечнасьць сялянцаў [2]) (асабістую незачэпнасьць: ніхто ня мог быць пазбаўлены свабоды і караны бяз суду й соку), права выезду ў суседнія землі ды заграніцу гаспадарства, неадказнасьць радзімы за злачынства («выступ») аднаго зь яе сяброў і іншыя [3]).

У 1457 г. Вялікі Князь Казімер выдаў прывілей духавенству, князём, баярам і мяшчанам. Характарнай рысаю гэнага прывілею было тое, што права, выданае асобным станам, упяршыню прасьцягалася на ўсё гаспадарства, а ня толькі на асобныя землі. Гэтым прывілеям між іншым была гарантавана асабістая незачэпнасьць, наіменна, што ніхто ня мог быць караны без адпаведнае судовае пастановы, далей, што жонка, дзеці, або слугі не адказуюць за віну іхняга айца, мужа, пана і што, напасьледак, кажны мае права вольнага выезду за граніцу. Як бачым, гэта галоўныя пункты конституцыяў асобных земляў крывіцкіх (Полаччыны і інш.), прытарнаваныя да ўсяго гаспадарства. «Прывілей» гарантаваў такжа, што сьвецкія й духоўныя ўрады будуць займаць толькі родзічы Вялікага Княства Літоўскага. Апрача таго Вялікі Князь пацьвердзіў у прывілею забавязаньне ня зьменшыць граніцаў гаспадарства.

---

[1]) Довнар-Запольскій, op. cit. 80.

[2]) Жыхараў.

[3]) Довнар-Запольскій, op. cit. 73.

«Конституцыя, выданая—па жаданьне Гетанаў—Вялікім Князям Казімерам у хорме менаванага прывілею сталася хундамэнтам (асноваю) ўсяго ладу Вялікага Княства Літоўскага. Вялікі Князь Аляксандра, наступнік Казімераў, забавязаньні, выданыя Казімерам, унёс у сваю констытуцыйную хартыю, і ў гэтай хорме констытуцыя гэтая была пацьвярджана наступнымі гаспадарамі» [1]).

У 1468 г. Казімер выдаў кодэкс права («судзебнік»), блізу вылучна крымінальнага характару.

**Статут Літоўскі.** У стагодзьдзі XVI паўстае поўны кодэкс правоў для ўсяго гаспадарства, званы Статутам Літоўскім. Ён паўстаў з крывіцкага права звычаёвага, з вышменаваных констытуцыяў асобных земляў крывіцкіх і з констытуцыі 1457 г., выданай Вялікім Князям Казімерам [2]). Зьмяшчае ён такжа некаторыя ўплывы правоў заходне-эўропэйскіх, наўперад рымскага, каторага знацьцё прыносілі даўнейшыя Крывічане із сваіх студыяў унівэрсытэцкіх на заходзе.

Есьцека тры поўныя кодэксы права ўсекрывіцкага, або 3 Статуты Літоўскія—з 1529, 1566 і 1588 г.г. Другі статут быў ладне паўнейшы за першы. Найпаўнейшы быў статут з 1588 г. Гэты быў апрацаваны ў вакалічнасьцех надзвычайных.

Тэкст Люблінскае Вуніі (1569 г.) вымагаў, каб акт гэтае вуніі быў унесены ў новы «папраўлены» Статут Літоўскі ды каб гэты апошні быў узгоднены із «статутам польскім, каб у ўсіх гаспадарствах» Жыгімонта Аўгуста «як у вадной рэчыпаспалітай было адно права». Гэткім парадкам папраўлены Статут Літоўскі меў быць далей зацьверджаны супольным—Польшчы й Літвы—соймам. Тымчасам сталася вусім накш. Комісія да папраўы Статуту Літоўскага асталася тая самая,

1) Довнар-Запольскій, op. cit. 78,

2) Довнар-Запольскій, op. cit. 81.

што была да Люблінскае вуніі. Да комісіі гэнае належылі вылучна Крывічы. Прыгатаваны камісіяй проект новага статуту быў разглядаў і папраўляны на павятовых соймах, а далей быў узгоднены й прыняты на зьезьдзе прадстаўнікоў усяго гаспадарства крывіцкага. Галоўным рэдактарам статуту 1588 г. быў слаўны юрысты крывіцкі, князь Леў Сапега, канцлер Вялікага Княства. Гэткім спосабам апрацаваны й прыняты крывіцкім гаспадарствам кодэкс яго правоў ня быў зацьверджаны супольным із Палякамі соймам, але зацьвердзіў яго Жыгімонт IV Ваза, як Вялікі Князь Літоўскі. Каб Палякоў і Жыгімонта IV Вазу прымусіць на гэта згадзіцца, Вялікае Княства Літоўскае перад выбарамі караля й вялікага князя збройна (аружна) да гэтага прыгатавалася.

Дзеля таго-ж Статут Літоўскі 1588 г. зусім чыста нарушыў акт Люблінскае вуніі. У статуце 1588 г. маем: 1) захаваньне поўнай апрычонасьці ад Польшчы Вялікага Княства Літоўскага і захаваньне даўнейшага (да Люблінскае вуніі) яго гаспадарсьцьвенага значаньня ды цэласьці яго тэрыторыі із забавязаньням для гаспадара вярнуць у ягоны склад тое, што іншымі гаспадарствамі ад яго было адарвана або ўпрашона; 2) апрычоную прысягу гаспадара Вялікаму Княству Літоўскаму, каторую быў скасаваўшы акт Люблінскае вуніі; 3) асобную й незалежную ад Рады ў Польшчы дзейнасьць гаспадарсьцьвенай Рады Вялікага Княства Літоўскага; 4) права нажываньня зямлі ды займаньня урадаў у Вялікім Княстве Літоўскім толькі родзічам гэтага княства [1]).

Наагул пры ўкладаньню статуту 1588 г. Вялікае Княства Літоўскае ані ня лічылася зь Люблінскай вуніяй. Трэйці Статут Літоўскі быў укладзены вылучна

---

[1]) Лаппо, op. cit. 162.

дзеля патрэбаў Вялікага Княства Літоўскага, як гаспадарства самастойнага й паўнапраўнага [1]).

Ацэнюючы Статут Літоўскі з гледзішча юрыдычнага, мусім прызнаць, што гэты поўны ўсекрывіцкі кодэкс праўны быў для свайго часу зьявішчам надзвычайным. Дзівяцца зь яго юрысты ўсяго сьвету. Есьцека аб ім вялізарная літаратура.

Наагул можам сконстатаваць, што ў часе свайго даўгога жыцьця гістарычнага крывіцкі народ наўперад адзначыўся ў трох наступных галінах: у галіне гаспадарсьцьвенасьці, у галіне права дый раньнім развоям мовы літаратурнай і яе пашырэньням.

**Мастацтва,** а) **Архітэктура.** Адзін із найноўшых дасьледаваньнікаў крывіцкае архітэктуры гэтак аб ёй кажа: «Выняткава багатую гісторыю Крыўі, хіба, ні на чым іншым немагчыма так выразна дасьледаваць, як на яе архітэктуры. Міналі стагодзьдзі, адна пара зьмянялася другою, але памяткі архітэктуры жылі далей і жывуць дагэтуль, адбіваючы ў сваіх хормах мінулыя стагодзьдзі» [2]).

Дагэтуль захаваліся з гэнае пары цікавыя памяткі будаўніцтва дзярвянага, як, прыкладам, царква ў Ваўкавыску [3]) або «Тры старыя найхарошшыя цэрквы дзярвяныя з XV стагодзьдзя, каторымі захапляюцца давядальнікі да места (Слуцку)» [4]).

Стыль будаўніцтва мураванага разьвіваецца ў гэтую пару ў колькіх кірунках. Адзін із іх прадстаўляе дальшы развой каменнага будаўніцтва царкоўнага пары па-

---

1) Лаппо, op. cit. 165.

2) Далин А.: Архитектура („Очерки по истории изобразительного искусства Белоруссии", Масква—Пецярбург, 1940, бач. 31).

3) Там-жа, бач. 36.

4) Dr. Albert Ippel: Zur weissruthenischen Kunst („Weissruthenien" herausgegeben von Walter Jäger, Бэрлін, бач. 90).

пярэдняй, адначасна зь некаторым уплывам готыкі. Прадстаўніком гэтага кірунку можа быць царква ў Супрасьлю (каля Беластоку) з 1503—1510 г. «Сваёй композыцыяй яна прыпамінае прынцып цэнтрычных вежаў свайго папярэдніка, старавечнага сабору сьв. Сохвіі ў Полацку [1]).

Аднак панаючым стылям у гэтую пару ёсьць крывіцкая готыка, што разьвілася з готыкі паўночна-нямецкае, каторая прыйшла ў Крыўю дарогаю на Рыгу [2]) ды праўдападобна такжа на Кенінгсбэрг і Горадзен. У готыцкім стылю будавалі шмат замкаў, прыкладам два замкі—верхні й дольны—у Вільні, Троках, Медніках, Крэве, Лідзе, Ноўгарадку, Горадне. Ня меней у готыцкім стылю будавалі сьвятыняў, прыкладам касьцёл сьв. Ганны й Бэрнардынаў у Вільні, цэрквы ў Сынкавічах і Мажэйках [3]).

Далей у крывіцкай архітэктуры чародна наставалі ўсе тыя стылі, што паўставалі на заходзе, значыцца рэнэсанс (замак у Смалянах ля Воршы і шмат іншых), бароко (касьцёл сьв. Антона ў Віцебску, б. жаноцкі манастыр Бэрнардынаў у Менску, брама праваслаўнага манастыра сьв. Тройцы ў Вільні) і іншыя.

**б) Малярства, скульптура, графіка** таксама стаялі на высокай роўні. З гэтае пары дахаваліся найхарошшыя фрэскі й мозаіка ў сьвятынях і князеўскіх замках (прыкл. у Троках). У адной з трох менаваных цэркваў у Слуцку, наймошна ў царкве сьв. Юр'і «ёсьцека яшчэ яе стары іконастас, выразаны й размаляваны мясцовымі мастакамі; наагул гэтая царква ў сваіх пазорных [4]) хормах, у сваёй любой гармоніі зьяўляецца каронаю ўсіх

[1]) Далин, op. cit. 39.

[2]) Шчакаціхін М.: Нарысы гісторыі беларускага мастацтва, Менск, 1928.

[3]) Шчакаціхін М.: Нарысы гісторыі беларускага мастацтва, Менск, 1928.

[4]) Харошых звонку.

крывіцкіх (беларускіх) цэркваў. Як сказана, у Слуцку можна знайсьці творы старое крывіцкае школы малярства... Найранейшае веданьне аб гэтай школе знаходзім у подпісе пад абразом із XV стаг., што ў саборы ў Кракаве, дзе кажацца, што маляр із места Вільні намаляваў гэты абраз па загаду Гаспадара Казімера Ягайлавіча. У Вільні ёсьць найхарошшы абраз Мадонны ў Вострай Браме; гэта такжа твор старое школы крывіцкае».

«З абразоў XVII й XVIII вякоў розныя захаваліся ў слуцкіх цэрквах, далей добрыя творы ёсьць у музэі ў Магілеве[1])». Можна дадаць, што цяперка шмат дарагіх памяткаў гэтага мастацтва крывіцкага ёсьць у розных музэях крывіцкіх, паміж іншым вельмі цэнныя ў крывіцкім музэі ў Вільні.

«Надта цікавым у ўсіх гэтых творах зьяўляецца міэзрны ўплыў у іх мастацтва візантыйскага[2]). Кідаецца ў вочы лучнасьць із мастацтвам нямецкім, напэўна за пасярэдніцтвам Балтыку. Асабліва гэта паказуюць творы із срыбра. Вельмі арыгінальныя вырабы слуцкія із срыбра. Найбалей пашыранымі матывамі тутка тульпаны й васількі. Поўнацэннымі зьяўляюцца старыя бармы і дыядэмы, асталыя ад Алелькавічаў; яны цяперка служаць прыборамі на абразе мадонны ў слуцкім манастыры сьв. Тройцы»[3]). Далей «часткава высакамастацкія антымінсы, на каторых служаць абедню ў усходніх цэрквах, твораць адну інтэгральную цэласьць»[4]).

Ня меней мастацтва графічнае ў усёй гэтай пары стаяла на высокай роўні. Найвышшага свайго развою яно даходзіць у 1-й чэцьверці XVI стаг. у выданьнях др. Пр. Скарыны з Полацку. Гравюры ў гэтых выданьнях,

---

1) Dr. A. Ippel.
2) Там-жа, 91.
3) Dr. A. Ippel.
4) Там-жа, 93.

як і працы пазьнейшых гравераў крывіцкіх, дарма што былі на тэмы біблійныя й іншыя рэлігійныя, сваёй хормаю глыбака рэалістычныя і адтваралі рэальнае жыцьцё крывіцкае. Найлепшы патрэт самога Скарыны (1517). Гравюры (малюнкі) ў кнігах, друкаваных Скарынаю, ня ўступаюць найлепшым тагачасным гравюрам нямецкім [1]).

Зь вялікае колькасьці гравюраў няведамых аўтараў, каторых працамі прыбіраліся крывіцкія старадрукі XVII—XVIII стаг., адзначаецца школа гравераў магілеўскіх, найвыдатнейшы зь іх Васіль Вошчанка (захаваліся яго гравюры з 1698—1730), далей Хведар Ангілейка, Апанас Вошчанка і іншыя [2]).

**Прычыны культурнага развою.** Ад чаго залежыў высокі развой культуры Крыўі (Беларусі) ў гэтую пару? Асновы культурнаму развою давала незалежнае жыцьцё політычнае. Добрыя ўмовіны ствараў вялікі развой жыцьця грамадзкога шляхты й мяшчанства («майтбюрскае» права, рамесьніцкія цэхі).

**Школы.** Культурнаму развою прыялі школы, як собскія, хоць іх было недаволі, так і студыі на ўнівэрсытэтах заграмічных. Школы найчасьцей былі ў руках духавенства.

Шырака ведамы былі праваслаўныя школы ў Вільні, Слуцку, Нясьвіжу, Заслаўю, Ноўгарадку ды інш.

Шмат балей было школаў рымска-каталіцкіх, паўперад езуіцкіх. У Вільні быў шырака разбудаваны езуіцкі ўнівэрсытэт, а езуіцкія колегіі былі расьсеяны па ўсім краю, між іншым у Полацку, Смаленску (з 1580 г.), Дзьвінску (з 1582 г.), Нясьвіжу (з 1584 г.), Мсьціслаўлю, Воршы (каля 1616 г.), Віцебску (з 1640 г.), Менску і інш. [3]).

---

[1]) Генін Д.: Графіка („Очерки по ист. изобр. иск. Белоруссии“, бач. 86), прыраўнуй такжа: А. Іппэль, op. cit., 93.

[2]) Там-жа, 89.

[3]) Довнар-Запольскій, op. cit., 91.

Езуіцкія школы, ведама, прычыняліся да падыйма культурнае роўні, але—з гледзішча нацыянальнага—уплывалі ад'емна, бо памалу дэнацыяналізавалі крывіцкую моладзеж.

Што іншае школы васіліянскія (базыльянскія, вуніяцкія). У школах гэтых моладзь гадавалася ў духу нацыянальна-крывіцкім. Васіліянскія манастыры, а пры іх школы былі ў Вільні, Ноўгарадку, Менску, Полацку, Магілеве, Мсьціслаўлю, Пінску, Смаленску і іншых [1]).

У часе шырэньня протэстанцтва была некаторая кольнасьць школаў протэстанцкіх.

**Іншыя асяродкі культурных уплываў.** Культурнае жыцьцё зусяроджавалася ля манастыроў і імі падтрымлівалася. Ня меншымі асяродкамі культурнымі былі двары Вялікіх Князёў і двары магнатаў-мэцэнасаў крывіцкіх, як Радзівілы, Ходкевічы, Сапегі, Алельскавічы, Кішкі, Агінскія, Статкевічы і шмат іншых.

На асаблівую ўвагу заслугуюць таварыствы праваслаўных Крывічан, званыя брацтвамі. Сябрам брацтва мог быць кажны бяз розьніцы стану. Заданьням іх было абарона веры, апека над цэрквамі ды асьвета. Яны мелі вялікае значаньне, як культурнае, так і моральнае ды тварыскае. Найстаршае брацтва было ў Вільні. Далей найведамшымі брацтвамі былі наступныя: Магілеўскае, Аршанскае, Мсьціслаўскае, Слуцкае, Менскае, Полацкае, Віцебскае, Шклоўскае, Крычаўскае і іншыя. Блізу ўсе брацтвы ўдзержавалі школы, некаторыя зь іх, прыкладам Магілеўскае, мелі собскія друкарні [2]).

**Друкарства.** У вялікай меры да развою культуры прычынялася друкарства. Першыя кнігі крывіцкія былі надрукаваны ў 80-х гадох XV стаг. ў Кракаве. Надрукаваў іх Швайпольт Фіоль, як сам піша ў тых-жа

---

1) Довнар-Запольскій, op. cit., 97.

2) Там-жа, 100.

кнігах «Немец із нямецкага народу, Франк» (мяшчанства польскіх местаў было тады нямецкае).

Закладаньнікам крывіцкага друкарства быў доктар Францішк Юры Скарына з Полацку. У 1517 г. коштам «Віленскага брацтва панскага» (бурмістраў і райцаў м. Вільні) ён залажыў крывіцкую друкарню ў Празе (у Чэхіі), каторую ў 1525 г. перавёз у Вільню. Гэта была першая друкарня на ўсходзе Эўропы. Друкарня Скарыніна стаяла на дужа высокай роўні і выклікала шмат насьледаваньнеў ня толькі ў краю, але і заграніцай (на Украіне, Балканах, у Маскве[1]).

Дальшую друкарню крывіцкую залажыў Рыгор Ходкевіч, гэтман Вялікага Княства Літоўскага, у сваім Заблудаве (ля Беластоку).

У Вільні другой пасьле друкарні Скарынінай была друкарня братоў Мамонічаў, зь іх Кузьма быў бурмістрам віленскім, а Лука скарбным (міністрам скарбу) Вялікага Княства Літоўскага. Друкарня Мамонічаў была надта вялікая і шырака ведамая ў сьвеце. Апрача таго былі ў Вільні крывіцкія друкарні пры манастырох—Сьвятой Тройцы (вуніяцкая) і Сьвятога Духа (праваслаўная).

Вонках сталіцы былі крывіцкія друкарні ў наступных мясцовасьцях: у Еўі ля Вільні, закладзеная княземі Багданом Агінскім, у Нясьвіжу князя Мікалая Радзівіла Чорнага, у Заслаўю, Любчы, Супрасьлю, Куцейне (у Воршы), Магілеве, Дарэчыне (закладзеная князем Лявом Сапегам ў 1585 г.), Ашмяне, Кнышыне, Слоніме, Горадне, Полацку, Менску, Пінску, Бялынічах і іншых.

Цікавая падарожная друкарня (з 1570 г.) ведамага дзяяча культурнага Васіля Аміляновіча, подле двара Цяпіна (недалёка Лепля) званага Цяпінскім.

Менаваная колькасьць друкарняў і іх роўня сьвет-

---

1) Прыраўнуй: Гэнін, op. cit., 87.

чаць аб высокім развою культурным тагочасных Крывічоў.

**Упадак і яго прычыны.** Ад канца 1-ае чэцьверці XVII в. зьмяншаецца тэмп культурнага развою і пачынаецца яго ўпадак. Аднэй з прычынаў гэтага было пагоршаньне палітычнага палажэньня крывіцкага гаспадарства. Але былі і прычыны характару культурнага. Наўперад ўзгадаваньне ў езуітаў прычынілася да культурнага ўпадку. У езуіцкіх школах у Крыўі адно ў дужа невялічкай ступені вучылі Палякі, а з пачатку якісь час блізу ўсі вучыцялі й ўзгадавацелі езуіцкіх школаў паходзілі із Заходняй Эўропы—з Італіі, Гішпаніі, Нямеччыны і г. д. Адылі гэта не ратавала палажэньня, бо менаваныя розных нацыянальнасьцеў Эўропэйцы маглі гадаваць крывіцкую моладзеж толькі ў каталіцкім духу космополітычным, а не ў крывіцкім нацыянальным. Пазьней заўсёды сярод вучыцелства ў езуіцкіх школах пераважалі Крывічы, але ўжо ў вялізарнай бальшыні спалячаныя. Гэткім парадкам дэнацыяналізаваўся найкаштоўнейшы ў тагачасных умовінах крывіцкі стан панскі, стан ня толькі багаты, але і кіруючы, бо наўперад гэты стан вучыў свае дзеці ў езуітаў. З дэнацыяналізацыяй гэтага стану ня стала мэцэнасаў крывіцкае працы культурнае, што ад'емна на ёй адбілася, запыняючы яе развой. Калі ў гэтых акалічнасьцях культура польская пачала перавышаць культуру крывіцкую, менаваны стан скосмополітызаваны палячыўся і гэткім парадкам рабіўся з абыякавага для справаў нацыянальных варожым ім. Гэтак Крывічы былі пераможаны не Палякамі, як напару абмыльна думаюць, але культурнымі сіламі ўсяе каталіцкае заходняе Эўропы. Усьцерагчыся гэтае паражкі можна было пры двух эвэнтуальнасьцях: пры пераходзе ўсяго народу крывіцкага на веру рымска-каталіцкую, як гэта ўважала карысным крывіцкая політыка ў часе Краўскае уніі 1385 г., або не аддаючы свае дзеці ў

школы езуіцкія, а нат наагул ў рымска-каталіцкія школы манастырскія, замест іх закладаючы школы собскія, абапертыя, як на ўмовы XVII стаг., на царкве праваслаўнай і вуніяцкай, карыстаючыся, ведама, у поўнай меры із здабычаў навукі заходне-эўрапэйскае. Гістарычнае дазнаньне з канца XIV стаг. пераканала, што першая эвэнтуальнасьць была таксама немагчымай. Дык аставалася другая. Іншага выхаду ня было, бо немагчыма было ходацца із сіламі ўсяе Заходняе Эўропы.

Трэба так сама прыняць пад увагу дэмаралізуючы ўплыў на шляхту крывіцкую шляхты польскай зь яе раскошным жыцьцём, бо, з прычынаў натуры політычнай, яна была звычайна вольная ад ваеннага клопату і яго цяжараў, што заўсёды мучылі Крывічоў.

Напасьледак, вельмі важным мамэнтам, аслабляючым нацыянальнае жыцьцё крывіцкае, было рэлігійнае ходаньне, між верай праваслаўнай і грэцка-каталіцкай.

Усе менаваныя мамэнты зьдзеілі, што пад канец стагодзьдзя XVII ладная бальшыня крывіцкага стану кіруючага, значыцца панства ці багатае шляхты, была ўжо спалячана. Гэтая бальшыня ў 1697 г. прыняла права, каторым гаспадарсьцьвенай моваю ў Вялікім Княстве Літоўскім, замест крывіцкай, была прызнана польская.

Аднак трэба зацеміць, што, нягледзячы на свой культурны ўпадак, Крывічы, найменей да пачатку стагодзьдзя XVIII, з глядзішча культурнага значэньня перавышалі Маскалёў. Дзеля таго Масква старалася прыцягнуць да сябе некаторых наўчоных і культурных дзеячоў крывіцкіх. У 1664 г. прыехаў туды выдатны наўчоны крывіцкі, Сымон Сітняновіч Полацкі. Ён быў узгадавацелем наступніка пасаду маскоўскага і паклаў асновы пад новую асьвету ў Маскоўшчыне. Крывіцкім эміграятам ў Маскве быў такжа Труцэвіч, што прыехаў туды разам із сваёй друкарняй.

## АД КАНЦА XVII СТАГ. ДА 1839 г.

Дык ад 1697 г. мова крывіцкая (беларуская) перастала быць моваю гаспадарсьцьвенай, але літаратурнай асталася далей, часткава да палавіны XIX стаг. З часам што раз меншая колькасьць інтэлігенцыі ёю карысталася. Перажывала яна долю свайго народу. Паддавалася ўплывам польскім. Шмат утраціла із свайго даўнейшага багацьця. Дык ня толькі інтэлігенцыя спалячаная, што пісала папольску, але і інтэлігенцыя сьвядомая свае нацыянальнасьці забывалася яе, ужываючы што раз часьцей, ня толькі ў гутарцы, але й на пісьме, крывіцкае мовы народнае, асабліва ад канца XVIII. Прылучэньне Крыўі (Беларусі) да Маскоўшчыны ў 1772—1793 г. шмат цяжэйшым зрабіла крывіцкае жыцьцё культурнае, але якісь час сутнасьць яго асталася тая самая.

Культурнае жыцьцё крывічоў у гэтую пару наўперад характарызуецца зужываньням культурных здабыткаў з пары папярэдняй. Праўда, меней відаць гэты запын культурнага развою ў галіне мастацтва, мо дзеля таго, што недаволі яго знаем із пары папярэдняй з прычыны страты мноства памяткаў. Але разам із выдавецтвам настае ад пал. XVIII стаг. сумарак (змурок) графікі. Адылі разьба й малярства разьвіваюцца далей. «Захаваліся творы, сьветчачыя аб вялікім уменьню крывіцкіх разьбяроў, высокіх майстроў народнага творства. У крывіцкім музэі ў Віцебску былі вялікія зборы аўтарных дзьвярэй XVIII—пач. XIX в. Дзьверы гэныя—гэта прыклады вельмі далікатнай разьбы мастацкай у дзярве. Надзвычайна складаны расьлінны орнамэнт з боку композыцыйнага тут дасканальна разьвязаны і памайстроўску споўнены».

«Там-жа былі размаляваныя дзярвяныя статуі сьвятых, ангелаў і ўкрыжаваньня (расьпяцьця) прыблізна з таго-ж часу. Бяссумлеву гэта творы мясцовых мастакоў з народу»[1]). Нямала падобных памяткаў ды дарагіх памяткаў тагочаснага малярства ёсьць у Крывіцкім Музэі Івана Луцкевіча ў Вільні.

Здаўна і дагэтуль слыве Крыўя сваімі мастацкімі тканінамі народнымі. Але ў гэтую пару ў шмат мясцох было шырака арганізавана ткацтва ды адначасна з вышшай роўняй мастацкай. Дыкжэ паўсталі хвабрыкі мастацкіх дываноў і гобэлінаў ды слуцкіх паясоў.

Хвабрыкі дываноў і гобэлінаў былі ў сьцягу двароў у Меншчыне, Магілеўшчыне, Віленшчыне, Чарнігаўшчыне (у Міклашэўскага ў Панароўцы, Старадубскага павету) і іншых[2]).

Вырабы дываноў былі ў Крыўі да 50—60 год XIX стаг.

«Сьветную (сусьветную) славу ў сваім часе здабылі слуцкія паясы. Колерныя шаўковыя паясы, пэратыканыя залатымі й срыбнымі ніцьмі, гэта надзвычайна дастойныя ўвагі памяткі даўнейшага мастацтва крывіцкага XVIII стаг. Асобныя экзэмпляры пераховуюцца ў найлепшых музэях сьвету... Нядаўна вялікі збор із 32 штук слуцкіх паясоў быў знойдзены ў замку князя Радзівіла ў Нясьвежу»[3]).

Хвабрыку слуцкіх паясоў на 25 красён упяршыню заклаў у Слуцку ў 1758 г. віленскі вайвода князь Міхал Казімер Радзівіл. Кіраўнікам хваб-

---

1) Керзін М. Скульптура („Очерки по ист. изобр. искусства Белоруссии", бач. 53).

2) Грынблят М.: Народное искусство („Очерки по истор. изобр. искусства Белоруссии", 13).

3) Там-жа, 17.

рыкі быў спачатку нейкі Маджарскі. Галоўным майстрам у хвабрыцы быў Васіль Барсук.

Спачатна ў слуцкай хвабрыцы капіявалі ўзоры пэрскія. Адылі па якімсь часе ў орнамэнт слуцкіх паясоў шырака праходзяць мясцовыя матывы расьлінныя—васількі, чырвоныя гвазьдзікі, незабудкі, стылізаванае лісьце і іншыя [1]).

Падобныя хвабрыкі былі закладзены такжа ў іншых мясцовасьцях крывіцкіх—у Гарадзішчу й Ласосьне ля Горадна, у Ражане, Нясьвежу і іншых. Хвабрыкі слуцкіх паясоў былі да 1844 г.; у вапошніх гадох яны выраблялі літургічныя ўборы [2]).

Затое кідаецца ў вочы запыненьне развою літаратурнага, бо мала паўстае новых твораў.

Праўда, і ў гэтай пары ё выдатныя адзінкі творскія. Гэтак, Гальляш Капіевіч-Копіеўскі, навучоны й друкар адначасна, зрабіў у пач. XVIII в. рэформу кірылічнага альфабэту. Рэформу гэтую прынялі крывічане, а далей і іншыя народы, пішучыя кірыліцаю.

Да выдатных дзеячоў культурных належыць такжа вуніяцкі мітрапаліт Леў Лука Кішка, паходзячы із старога магнацкага роду крывіцкага.

У пачатку стаг. XIX пачынаецца нацыянальна-культурнае адраджэньне крывіцкае. Адылі новыя творы літаратурныя паўстаюць не ў даўнейшай мове літаратурнай, але ў крывіцкай мове народнай. Каля 1830 г. зьяўляюцца крывіцкія навучоныя стаячыя на вышыні заходне-эўрапэйскае навукі, як філёлёг Баброўскі, прафэсар Віленскага ўнівэрсітэту, або праўнік Даніловіч і іншыя.

---

1) Грынблят М.: Народное искусство („Очерки по истор. изобр. искусства Белоруссии", 17).

2) Там-жа, 13.

У той час, калі ў царкве рымска-каталіцкай у Крыўі ў XIX в. пераважала мова й культура польская, калі ў царкве праваслаўнай просьле прылучэньня Крыўі да Маскоўшчыны, сілком было накінена ўсё маскоўскае, царква вуніяцкая заставалася апораю крывіцкасьці. Дык скасаваньне вуніі—сілком маскоўскім урадам у 1839 г. было вялізарным вытням (ударам) народу крывіцкаму, тым балей, што было злучана зь перасьледваньнем усяго, што крывіцкае. Гэтак, прыкладам, былі забаронены ў цэрквах і касьцёлах казані ў мове крывіцкай. Крыўі, што не перажывала ярма татарскага, з часінаю скасаваньня вуніі, сталася таковым ярмо маскоўскае. Скасаваньням вуніі і перасьледваньнямі з гэтым злучанымі крывіцкае адраджэньне нацыянальнае блізу на сто год было спозьнена. Гэтак, прыкладам, навучоныя крывіцкія такой меры, як Данілович і Баброўскі, зьяўляюцца адно па 1920 г. Пара ад 1839 г. да расейска-японскай вайны 1904 г. была найцямнейшай і найгоршай у гісторыі Крыўі.

Просьле вытня, зробленага Крыўі перасьледваньнямі вуніятаў, адно ад 1855 г. зьяўляецца вялікі сьцяг поэтаў і празаікаў крывіцкіх шляхоцкага паходжаньня (В. Дунін-Марцінкевіч, К. Каліноўскі, П. Шпілеўскі, В. Каратынскі, А. Дарэўскі Вярыга і шмат іншых); асабліва шмат сілаў літаратурных дало Узьдзьвіньне, значыцца даўнейшая Полаччына. Дык ізноў сур'ёзна пачалося нацыянальнае адраджэньне ў галіне літаратурнай. Нажаль, забарон маскоўскім урадам у 1864 г. крывіцкага друку, злучаны з выгубленьнем інтэлігенцыі, што прыймала

ўчасьце ў паўстаньню 1863 г. на чале з К. Каліноўскім, здушыў гэтую адраджэнскую цеч.

Гэткім спосабам аслабленае літаратурнае адраджэньне пачынае йзноў крапчэй пульсаваць адно пад канец XIX стаг. (Пранціш Багушэвіч, Альгерд Абуховіч, А. Гурыновіч і іншыя). Кніжкі друкавалі заграніцай і адгэнуль нелегальна прывозілі ў край. У першых гадох XX стаг. гэты рух крапчэе.

## АД 1905 ДА 1920 ГОДУ

Кароткі час ад 1905—1920 г. на толькі важны ў вадраджэньні крывіцкім, што надабе яго выдзяляць у васобную пару. А дзеля блізіні гэтае пары да нашых дзён, выпадае сказаць аб ёй шырэй. Ранейшае імкненьне да нацыянальнага адраджэньня ў гэтую пару магло быць ляпей выкарыстана дзякуючы дазволу на друк у мове беларускай ад 1905 г.

**Прэса.** Дзякуючы магчымасьці друку, паўстае крывіцкая прэса. Даўгі час гэта былі тыднёвыя і іншыя часопісы («Нашая Доля», «Нашая Ніва», «Саха», «Bielarus», «Лучынка» і інш.), а ў 1919—20 г. г. зьяўляюцца і штадзеньнікі.

Выдатнымі публіцыстымі крывіцкімі ў гэтую пару былі: Антон Луцкевіч (мянушкі: Ант. Навіна, Г. Букавецкі, Іван Мялешка і іншыя), Вячаслаў Ластоўскі (мянушкі: Власт, Юры Веращчака і іншыя), Ян Луцэвіч (Янка Купала), Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.) і інш.; пазьней у Менску да іх прылучаецца Язэп Лёсік і інш.

Закладаюцца выдавецкія таварыствы беларускіх кніжак: у Пецярбурзе Супалка «Загляне сонца і ў наша аконца», закладзеная й ведзеная др. інж. Вацлавам Іваноўскім (мянушка: Вацюк

Тройца) і проф. Браніславам Эпімахам-Шыпілам, у Вільні «Беларускае Выдавецкае т-ва» (галоўна браты Іван і Антон Луцкевічы і В. Ластоўскі).

## Нацыянальная сьвядомасьць

Прэса, а ў меншай меры—і выдаваныя кніжкі крывіцкія, шырацць нацыянальную сьвядомасьць у шырокіх масах народных. Нацыянальная сьвядомасьць шырыцца такжа за пасярэдніцтвам крывіцкіх кнігарняў (Вільня, Менск, Полацак). Да сьветнае вайны 1914—1918 г.г. нацыянальная сьвядомасьць крывіцкая была найбалей пашырана ў Віленшчыне, Горадзеншчыне, Меншчыне, слабей у Полаччыне, Віцебшчыне, Магілеўшчыне, пры гэтым за Дняпро ледзь даходзіла, але й адгэнуль былі крывіцкія дзеячы й пісьменьнікі (Максім Гарэцкі, Журба).

У сярэдніх і вышшых школах паўстаюць гурткі крывіцкае моладзежы.

Сьветная (сусьветная) вайна дала магчымасьць шыршай працы нацыянальнай у—занятай немцамі—заходняй Крыўі, што было толькі часткава выкарыстана дзеля нястачы інтэлігенцыі, вывезенай маскалямі на ўсход. Але вывезеная нацыянальнасьвядомая інтэлігенцыя сталася дражджамі крывіцкага ўсьведамленьня на ўсходніх прасторах Крыўі. Асабліва рэвалюцыя на ўсходзе Эўропы дала магчымасьць разгарнуць нацыянальнае ўсьведамленьне. Дзеля таго ў 1918—20 г. г. сьвядомыя масы беларускія былі ўжо вялікай сілаю.

**Літаратура.** Прэса й выдавецтва наагул далі магчымасьць развою літаратурных талентаў, што таіліся ў народных гушчах. Пісьменьнікам, пераходным із папярэдняе пары, ёсьць Антон Лявіцкі (мянушка Ядвігін Ш.), далей заслужанае месца займае паэта патрыётка-рэвалюцыянэрка Алёіза

Пашкевічанка («Цётка»). За імі ідзе сьцяг малодшых паэтаў і пісьменьнікаў—Максім Гарэцкі, Аляксандра Прушынскі («Алесь Гарун»), Казімер Кастравіцкі («Карусь Каганец»), Журба, Гурла, Жылуновіч («Цішка Гартны»), К. Буйлянка, Пранц. Аляхновіч і іншыя. Між іх, бы волаты, выдаюцца такія вялікія таленты з ласкі божае, як поэта-грамадзянін Ян Луцэвіч (Янка Купала), псыхолёг і прыродаапісаньнік Кастанцін Міцкевіч (Я. Колас, Т. Гушча) ды вышшы літаратурнай культураю Максім Багдановіч.

Паўстае літаратурная крытыка (А. Навіна, М. Багдановіч, Бульба) і гісторыя літаратуры (М. Гарэцкі, праф. Янчук).

**Навука.** У гэтую-ж пару маем солідныя пачаткі навукі гісторыі Крыўі, як працы проф. М. Даўнар-Запольскага, што, на жаль, звычайна пісаў па-маскоўску (пакрывіцку выйшлі яго «Асновы дзяржаўнасьці Беларусі»). Компілятыўная «Кароткая гісторыя Беларусі» Власта прычынілася да папулярызацыі гісторыі Крыўі і зрабіла ў сваім часе вялікую ўсьведамляючую работу. Ужо меншае значаньне мела гісторыя Беларусі Усевалада Ігнатоўскага, што быў балей прыгатаваўшыся за Власта.

Была-б і іншая навука крывіцкая, калі-б ня тое, што аўтары-крывічы, як, прыкладам, прыроднік проф. Л. Сяўрук, з прычыны політычнай і гаспадарскай залежнасьці, друкавалі свае працы памаскоўску або папольску.

Нястомны дзеяч, археолёг Іван Луцкевіч, працаю ўсяго свайго жыцьця, зьбірае беларускі музэй у Вільні і ўміраючы сам зь беднасьці (памёр у 1919 г. на сухоты, ня маючы перад тым за што лячыцца), пакідае крывіцкаму народу вялікае багацьце.

**Тэатр.** Вутлыя спачатку спробы крывіцкага тэатру—аматарскія паказы, у розных мясцовасьцях, як прыкл. ў «Беларускім Драматычным Грудку» ў Вільні, разьезная трупа Ігната Буйніцкага і інш.—дзякуючы такім кіраўнікам, як рэжысэр Пранц. Аляхновіч, Ждановіч і інш., а яшчэ балей дзякуючы пакрапчэньню самога крывіцкага руху, разьвіліся ў запраўдны тэатр у Менску.

**Музыка** агранічуецца запісаваньням (Антон Грынкевіч і інш). і гарманізацыяй (Тэраўскі і інш.) крывіцкіх народных песьняў.

**Новая мова літаратурная.** Пішучы ў сваёй мове народнай, крывіцкія пісьменьнікі II пал XIX і пачатку XX в. увесь час імкнуліся пісаць моваю агульна-крывіцкай, значыцца стараліся стварыць мову літаратурную. Дык мусіла яна вырабляцца. Некаторы парадак навуковы ў дыялектычны хаос першы ўвёў у 1918 г. Браніслаў Тарашкевіч сваёй практычнай граматыкаю. Нажаль, Тарашкевіч, будучы моваведам подле сваіх студыяў унівэрсытэцкіх, ня быў ім ані подле сваіх здольнасьцеў у выбранай ім спэцыяльнасьці ані подле ўпадабаньня, дзеля таго сваю працу над крывіцкай моваю спыніў ён у яе пачатку. Розныя прычыны прыялі таму, што асноваю новае крывіцкае мовы літаратурнае сталіся заходнія гаворкі цэнтральнага дыялекту крывіцкага. Як ведама, усходнія гаворкі таго-ж дыялекту калісь у XIV стаг. ляглі ў аснову стара-крывіцкае мовы літаратурнай.

**Школы.** Да рэвалюцыі 1917 г. Маскоўшчына не дазваляла крывіцкіх школаў. Дык першыя школы крывіцкія паўсталі ў часе акупацыі немцамі Заходняе Крыўі 1915—1918 г. г., а ў Крыўі цэнтральнай і ўсходняй па рэвалюцыі 1917 г.

У 1918—20 г. г. было ўжо мноства крывіцкіх школаў народных ды сьцяг сярэдніх, а ў Менску Пэдагагічны інстытут. У 1920 г. Крыўя стаяла на парозе свайго ўсебаковага культурна-нацыянальнага адраджэньня. Трэ было толькі адпаведных умовінаў палітычных, каб гэтае адраджэньне шыража й глыбака ўжыцьцёвілася.

Канчаючы разьдзел аб культуры, добра будзе да словаў прызнаньня проф. Даўнар-Запольскага, што крывічы ў працягу гісторыі давялі «сваю жыцьцёвасьць, сваю здольнасьць да высокай культуры гаспадарсьцьвенай і гаспадарскай» дадаць, што ня меней давялі сваю здольнасьць да высокага развою культурнага.

---

## ЗЬМЕСТ.

Minsker Verlags- u. Druckerei G. m. b. H. Nr. 466